ДАНУТА
БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА

# А НА ПАЛЕССІ

вершы і балады

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1990



ББК 84Бел7
Б67

В жанровой основе новой книги поэтессы — лирические стихи и исторические баллады.

Данута Бичель-Загнетова со всей присущей ей эмоциональностью и поэтическим темпераментом не просто исследует, а буквально вживается в белорусскую историю. Поэтессу интересуют незаурядные личности прошлого — Ефросиния Полоцкая, Всеслав Чародей, Кастусь Калиновский...

В стихах широко используется лексика народных говоров.

Б $\frac{4702120202-031}{М\ 302(05)-90}$ 43—90

ISBN 5-340-00



## А НА ПАЛЕССІ

А на Палессі чорцікаў хутка не стане.
Чуеш, апоўначы торгае, круціць прабой.
Шклянку надзеі ты мне нальеш на світанне...
— Я падару табе боль.

Дзе дываны даматканыя сохнуць на плоце,
шаластуны старажытныя звоняць тугой,
тут я хацела б з табою згубіцца ў балоце.
— Тут падарыў табе боль.

Хоць бы ў закозельскай той
пахавальні-капліцы,
каб не вяртацца да жорсткай рэальнасці
больш,
з бровару зелля напіцца,
маной атруціцца.
— Тут напаіў цябе боль.

Нас не шукалі б
ні родны твой Мінск, ні Еўропа.
Што ім — якая прапала натура з табой!
Ты мне пакажаш вёску Агоў, потым Опаль.
— Я акуну цябе ў боль.

Тут яшчэ плачуць жанчыны
з адданасцю хорам.
З Ляскавіч звон
неба нап'ецца нагбом.
Хай непралазная багна
накоціцца морам!
— Тут акуну цябе ў боль.

Недзе ў аблоках
буслікі клёкат купалі.
Нішчыў надзею драўляны язычніцкі бог.
Мы не прапалі ні ў будзень, ані на Купалле.
— Зноўку вярну цябе ў боль.

Бегла дарога старая
здалёку да Пінску.
Крышку па ёй пракаціў нас пяшчоты прыбой.
Ведама ўжо,
што і ў Пінску так, як і ў Мінску,—
Пінай і Прыпяццю боль.

Апроч наіўнай надзеі,
нічога не маю,
што адраджуся на градцы з назовам любоў,
дзе пасадзілі цыбулю і буйную мальву.
— Шчэ я ўзрасціў табе боль.

## ПЕРАД НЁМАНАМ

Дужым, высокім, відушчым
дробныя справы закрэсь,
выйдзі з вялікае пушчы
здольны, як Нёман увесь.

Нёман высокаму не па калена —
сам ты да гэткае праўды дайшоў.
Прадзед ля Нёмана трушчыў каменне,
быў не каменны душой.

У крыгалом і ў сярэдзіне мая
ў шчырыя ночы і дні
Нёман прытокі-дзяўчат абнімае,
ды прыгажэюць яны.

Ціха ў сумётах духмянага сена
з людствам і сэрцам пабудзь.
Нашы бабулі тут безыменна
нам калыханкі пяюць.

На мазалях працавітага краю,
уросшы ў яго карані,
бачыш — стамлёнаю зоркай згараю,
прагну тваёй глыбіні.

* * *

Ад маўклівай мядзведзевай спячкі
абуджаюся слабай спярша.
У чаканні любоўнай гарачкі
з глыбіні скаланецца душа.

Невядомы, салодкі, пануры,
нібы лёс, прада мной паўстае
вестуном новай радаснай буры
і спакойна заснуць не дае.

Нашы страсці пакуль што ў зародку —
тры разы лепей стрэльнуць замком,
у бязлюднай начы пасяродку
цалавацца са снегавіком.

Хлопец выдаўся ўпартым стварэннем.
Ды заклад зноўку выйграе час.
Закаханасць не вырву з карэннем —
стану дужай,
каб стрымліваць нас.

Павандрую па роднай старонцы.
У шчаслівых пабуду ў гасцях.
На запыленай кніжнай старонцы
намалюецца крыж на страсцях.

Як вярнуся з далёкага краю
да спакойных вясковых высноў,
стану дужай і лёгка прайграю...
Буду цешыцца пройгрышу зноў.



Прынёс ахапак праменняː
— Дзверы хутчэй адчыні!
Не будзь перуном імгнення,
маланкі з мяне не ўчыні.

Не знікні за борам рэхам,
бы ў майскіх нетрах «ку-ку».
Чаму ж ты так доўга ехаў
верхі на маладзіку?

Выкінуў рэшткі страху.
На прысаку рук заснуў.
Стаміўся з вялікага шляху —
сонца з дарогі вярнуў.

# ЧАРОДКА

Злучыла нас вясна лукой адною.
Чародка птахаў
між табой і мною.

Прагнаць бы неслухмяную чародку
за бор усхваляваны, за паводку!
Купаюцца высока між блакіту.
А ты ідзеш да сонейка...
Які ты
прасветлены бязвоблачнымі днямі!

Але чародка птахаў
паміж намі.

Адразу нешчаслівы і шчаслівы.
Адразу і распусны і цнатлівы,
так рызыкоўна — смелы і нясмелы —
мне пасылаеш маладыя стрэлы.
Узбунтаваў душу,
нібы цунамі.

Але чародка птахаў
паміж намі.

Прыкінуўся вясёлым панямонцам,
маім невыпадковым абаронцам.
Упарта наравістая адвага
у клетку рук злавіла сэрца-птаха...
І замаўляеш вуснамі дрыготка...
Але чародка...



З прыполу хмаркі Ярыла
у барок закаціўся.
Светлая хмарка свяціла.
Край неба свяціўся.

Напаўзала вільготная мрока
на Нёмана хвалі.
Цені воблак на схілах пагоркаў
пералівамі гралі.

Ў неманіне, як лыжка ў місе,
патанула лясное рэха.
Здалося, воз часу спыніўся.
Воз часу ехаў.

Лушчаць хвілі-арэхі конікі
ў сакаўных мурагах.
Стагоддзяў мышастыя коні
дрэмлюць, стоячы на нагах.

І чаму мне ўвесь вечар здаецца —
едзеш ты на белым кані.
Стукаціць закаханае сэрца,
нага ў страмяні.

А ў белага каня з-пад капыт
зоры сыплюцца ўвысі.
І паморак плыве ў нябыт.
І воз часу спыніўся.

Мы схаваліся ў вушка гляка,
як дзве рыбанькі ў мора.
І ражок твайго маладзіка
маю хмарку заморыць.



Чортава вока амаль.
Усе хваляванні лёсу
хай сплывуць паміж хваль.

Мроіла часам — чаму ж! —
дзікаю вішняй палескай
сыпаць пялёсткі ў глуш.

У кашульцы начной
плыць да цябе ў абдымкі
ракавінкай рачной.

Задумай мяне — цішком
увайду ў тваё сэрца
таямнічым штуршком.

Ты — мой дожджык сляпы,
а я сасмяглая ўся.
Мяне на таржку не праспі.

Наранку ўзыходзь хутчэй!
Нечаканай слязінай
тулюся да шчырых вачэй.

Трымай у праменні рук,
сакавіцкай пяшчотай
ператвары мяне ў рунь.

Нібы надрэчнай вярбой
апырскваць бераг расой,
так цалавацца з табой.



З дужай ствары мяне кволай.
Сонейкам апрамяні.
Флюідаў шчырае кола
не праміні.

Вярні мне хвілю бяссмерця
з дзяцінства ў шчаслівым сне.
Зайдзі ў маё сэрца, бы вецер
праз шчылінку, што ў сцяне.

З пяску я. А ў кошыку лункі.
А ты мяне пазбірай.
Хай вернуць твае пацалункі
ў вясковы згублены край.

Пастаў на лаўцы, бы кубак,—
дзён у вядзерцы на дне,
і маці склікае курак,
і бацька ў акне.

І захад раскідвае пер'е
па стрэсе нябёс дапазна.
Цябе не пазнае там певень
і шлях, што чужынцаў пазнаў.

Святочны, сонечны ўсенькі,
на цёплай шчодрай расе
ўзары мяне плугам, з сявенькі
жытам засей.



Не відно пераправы.
Збунтавала паводкай раку.
Але наш берag — правы.
І праўда на нашым баку.

Разбудзілі прыроду...
І разбуджана прагнем прыгод.
І няма нам звароту
ў заспакоены сонцаварот.

І дагэтуль гады — чарапахі.
А цяпер нашы досвіткі — птахі.
Заспявалі вяснова шпакі.

Крыгаломам ачысціўся Нёман.
І каменне з плячэй — крыгаломам.
І настрой паўнаводнай ракі!



Калі даспела ў жніўня збожжа,
то красавацца зноў не зможа.
Вядзе дарога ў бездарожжа.
Бярэзіна — Дняпром да Сожа.

На чорны вечар — ані гроша.
Шлях падыходзіць да падножжа
гары...
І хочацца прыгожай
канцоўкі ў песні, як душа...

Тутэйшы, просты, не святоша.
А мне яго кахаць — раскоша,
і прыхамаць не пераможа
нічый заказ...
Люблю, о Божа!



Апынуся ў пашчы грому.
Прытаюся ў вушку хмаркі.
Вочы — шчырыя дзве чаркі —
раптам засцяць белы свет.

Раскрываюцца на ўсходзе,
як марылькі каля хаты.
Белы свет не вінаваты,
што душа — прадонне бед.

Сядзеш хмелікам высока
на здарожаную зёлку.
Каляровую вясёлку
выпівай нагбом да дна.

Сагараюць вочы-промні,
покуль схіл нябёсаў цёмны...
Забывай мяне, не помні,
як засвецяць вочы дня.



Постаць змянілася, тварык змарнеў,
руж не малюе на шчоках вясна.
Клопат і клопат значы і звідна.
Сцежка ўдоўж Нёмана мучыць мяне.

Вось ты свой цень паспрабуеш дагнаць.
Дробная хваля яго абміне.
Нават і ценямі нам не дастаць —
мне да ўяўлення, табе да мяне.

Зранку спяшаемся кожны ў свой бок,
кожны нясе адзіноты цяжар
хісткаю сцежкай між сонца і хмар.

Па ценяках не пазнаем здалёк.
Лёс, насланнё, нецярпенне віной?
Кожны ў свой бок і да мэты адной.



Але не лёс нам вярнуцца
да простых людзей,
што намаўляюць на сэрца і розум
ясноту,
прад невыноснай знямогай
спыняюць работу.
Рана,
каб толькі памерці,
кладуцца ў пасцель.

Праца і шчырасць
здаўна там правяць правы.
Вышай, чым школьную,
бацькаву лічаць вучобу.
Там па-вучонаму не называюць хваробу —
кашаль ці вольнасць...
Або заварот галавы.

Мы паміраем не ад хвароб,
ад бальніц.
Мы прывыкаем змагацца не зброяй —
распустай.
Не ачышчаем сябе забаронай, пакутай.
Сцежкі быллём зарастаюць
да родных крыніц.

Але ж выходзілі некалі ў бор
басанож!
Жахі расою змывалі
і чулі, як зоркі,
ў змроку прадоння паплаваўшы,
чысцілі пёркі,

перамаўляючы з ветрам і з намі,—
чаго ж?

У чараўніцы,
з якою да згоды дайшлі,
што размаўляе апоўначы
з цемрай, з вякамі,
так, як з плячэй або сэрца
здымаецца камень,
зняць папрасілі б каменне
таксама з душы.

Пеўні спыталі б на досвітку:
— Што ты не спіш?
Хочаш, прагонім
з вачамі вялікімі страха?
То ў агародзе распята на крыж апранаха.

Так і на смерць,
як на курыцу, кажуць «акыш»!



За шырокай спіною
так мне ўтульна, нібы на крыжы.
Любы, ўкрадзены мною,
у маіх — у абдымках чужых.

Весяліў навіною...
Сон кароткі ў загубленых душ.
Любы, ўкрадзены мною,
тайнічок таямніцы не руш...

Збунтаваных слязін чараду
на расстанне ў далоні кладу.
Ты балюча мяне пашкадуй.

Вырай зрошаных золкамі вёрст
на забыт, на чаканне, на пост...
З прагі любаю быць — прападу.



Хаціна цёткі Анэты...
Цямрэчаю ганачак светлы.
Маладзічком-тайнічком абагрэты,
званком светлячка падперты.

Спявалі дзверы тэрцыны,
санеты.
Ножкі стала выбівалі куплеты.
Канапка ні рыфмаў, ні рытмаў не ведала,
канапцы было не да гэтага...

Мяне шкадаваў у паўсне ты.
Мяне пасылаў за паўсветы,
пакуль разаспаныя вокны суседак —
хапала зорачак-сведак.

У той хаціне цёткі Анэты,
як павучкі, начавалі паэты.
Шчасцейка ткалі паэт і паэтка,
покуль цвіла папараць-кветка.

## МІМАЛЁТНА

Як на злосць, не гняце мяне старасць,
не знішчае хваробай, бядою.
Вось па левым баку тратуара
хтось падскоквае лёгкай хадою.

Так спяшаецца цешыцца з волі.
Маю сілу і не зачаплюся,
дзёрзкім вокам у хмары ўтаплюся
і не буду каханай ніколі.

Між дзяўчат як жа быць яму дужым?
Ногі дзыгаюць з чорных калготак. 36
Вочы зыркаюць з вей, бы са шчотак.
Мішуры не хапае іх душам.

Абмяняемся позіркам проста.
Не ўгадае ў душы завірухі.
Бы з дзявоцтва знаёмая постаць
набыла незнаёмыя рухі.



Вочы твае зялёныя,
што два віры замглёныя.
Хваля прыліву накоціцца —
зноў акунацца не хочацца.

Чоўнікам будзь, не каламуць.
Песняй зялёнай, што хвалі пяюць.
Вірам зялёным — ні ўброд, ні ўплаў.
Свет, як туман, заслаў.

Духам слабы, дражнішся з кім!
Сэрца збалела маўчыць.
Хай разарве цябе на шматкі
зграя сучасныхваўчыц.

Як ты на вецер свой час растрос!
Мучыцца буду здалёк —
здольна адна падняць твой лёс
да веснавых аблок.

***

Калі б думкі смелыя былі,
за сабою войска павялі.
Выдумала б выйсце з тупіку.
Але ў галаве — як на таку.

Выдумала — шчырая пара.
Да другіх сясцёр пайшла сястра,
з літасці слязіну не змахне...
Толькі сонейка не здрадзіць мне.

Разальюцца морам цеплаты
рэкі-сёстры, ручаі-браты.
Стануць прад вачамі тарапы —
снегу пацямнелыя тарпы.

А пакуль бяскрай бялютка, гладка.
У настылых далях з ценяў кладка.
Дзюбкі рунь высоўвае з-пад снегу.
Кудасе нідзе няма начлегу.

## ЖУРАВІНЫ

Каля балотнай лясной азярыны
выспелі песні журбы журавіны.
Вужыкі грэюць на купінах спіны.
Цешаць душу журбой журавіны.

Плюхаюць боты ў нагрэтаї імшыне.
Стома нахлыне, і хмара нахлыне.
Вецер абвее, і высушыць сонца.
Боль задаўнелы суціхне да донца.

Хмелем-багуннікам голаў захмеліць.
Бзумкае з джалам пагрозліва чмелік.
Тут абыякавы ў сне не прысніцца.
Тут і на воўка не маюць рушніцы.

Жар-журавінкі, жураўлікі, журкі.
Літасцю сэрданька разварушу.
Шчэ спадзяванне на варажбу.
Шчэ ў галаве памутнелай танцулькі.

Ды ў адзіноце, што журкі ў балоце,
нібыта зоркі ў завоблачным лёце,
нібы аблокі з вятрыскам і з гулам,
я абнімаюся толькі з мінулым.



Каб не разбіцца,
як падаеш каменем з вышак,
не разгубіся патрапіць у дужыя рукі.
Час і на дрэве карой зарубцуе зарубкі
і сінякі пазагойвае
спеўны зацішак...

Беды і сіла.
Выхоўвае хлопчыкаў пас.
Выпараць дубчык у кіпені —
пугаю лясне.
Соннай натуры прыдасца сапраўдная лазня.
Радасці мала?
Нядоля ўзварушвае нас.

Кожны хацеў бы апошнім
стаць перад бядой.
Не, я не першая...
Але ж стаю ранавата.
Што захавалася ў сэрцы —
так многа аднята?

Стрэлка па кругу спяшаецца роўнай хадой.
Шчэрыцца час, нібы воўк,
на часіну-бяду.
Нікне надзея,
што ў сэрцы апору знайду.

## ВІХОР

На тое ён — віхор:
з карэннем вырваў дуб.
Дно замуціў азёр.
Жарствы ўзвіхурыў слуп.

Зялёных мутных воч
з крыніцы не працёр.
Крычу:
— З дарогі збоч!
— Не збочу, я — віхор!
Я — гнеў, я — пыл, праклён!
Мне не пярэч дарма.
Знішчаць — такі мой кон.
Мне перашкод няма.

Стаілася з бядой
між сцежак і разор...
Пагрэй мяне, віхор,
адзіны сябра мой.

# ДУША

Птахі з бетону
ўзлятаюць пагрозай палёў.
Замак у Косаве
слепіцца ў вокнах быллём.
Цягне пагорак на плечы
з ядлоўцу кажух.
Далеч стракатая мае жывую душу.

Вораг яе выкідаў
на агонь і на снег.
Воўкам за ёй туляняўся,
капаўся кратом.
Верхі ўцякала на белым кані
са шчытом.
Месца мяняла наўскач
на кароткі начлег.

Рупна шукаю
адзінай сяброўкі ў бядзе.
Высачу схоўку,
хоць сэрца скантую на кант.
Можа, бабулькай
засохлым Палессем ідзе?
Там да яе не прымешаны
балцкі субстрат...

Вёска над Чорнаю Ганчай
з нашчадкаў ятвяг.
Хата, што цацка.
Свіронак.
Заможны, аднак
дзядзька нідзе не працуе —
вядзьмарчын прымак,

выбраць пярэпалах можа,
сам ён вядзьмак.

Вывесці дзядзьку
з раскошы яго на святло?
Класці штодня на алтар
ачышчэнняў і страт
напластаванне стагоддзяў —
словаў двухрад?

Праўду лушчыць са шматслоўя
таго, што было?



І тут нікогачкі няма.
Прыступка кожная знаёма.
Заснуў і не цячэ амаль
да ўсіх замілаваны Нёман.

Да ўсіх шчаслівых, да мяне
замілаваны, не драбніцца...
Заснуў на роднай старане
і на Літве заснуў як быццам.

І не кранае ў сэрцы струн.
Калыша сонныя аблокі.
Заснуў, як спіць Алесь Гарун,
забыты ў Кракаве далёкім.

Нібыта спіць...
Але цячэ
душой да акіяна-мора.
І мне душа баліць яшчэ,
душа стамілася ад гора.

Так прытулюся да Каложы
маёлікавай соннай пліткай,
стаптаным каменем падножжа,
льняной вясковай світкай...

Прачнецца Нёман — не супяць.
Балтыйскае пабудзіць дно.
Стаміла крокі даганяць
імя, забытае даўно...

## КРУМКАЧ

Многа вясковай лухты
згубіцца ў долі на дне.
Дужы крумкач малады
выдзеўбаў сэрданька мне.

Сама што ў лёце крумкач
шлях свой наднебны скрывіў.
Як ён пяшчотна прыпаў,
хмельнай напіўся крыві.

Болем загойваў адчай.
Раны загойваў слязьмі.
Шмат дабрыні ў крумкача?
Крыху на ўцеху вазьмі.

Гэтак прыгожа кружыў!
Выклеваў сэрца і ўцёк.
Чыстае неба душы —
ані надзеі здалёк.

Ён не пачуе мой плач.
Знік у нябёсах. Прыціх.
Дужы нахабны крумкач
ля маладых крумкачых.

Хай ён ляціць у бязмеж!
Згуба — набытак душы.
Шлях да вяртання адрэж.
Песняю боль заглушы.

## КАМЕНЬ

Шэры камень на гары
у амшэлай світцы.
Як нянавісць ні твары,
нам не пасварыцца.

Нашым спрэчкам не канец,
шчэ ім разгарэцца.
Не арэшак-лузанец —
камень тваё сэрца.

Не красуюся ні трошкі.
Хто ж мяне сурочыў?
Каля каменя валошкі,
нібы твае вочы.

Каля каменя ўзыходзіць
на два тыдні ўсё раней.
Тое ведалі ў народзе,
дык і камень быў радней.

Як астудзішся аднойчы,
з кім жа адгавецца?
Мора суму — твае вочы,
камень — тваё сэрца.

Камень грэе,
камень грэе.
Ад прысушкі сэрца млее.
Абагрэй мяне каменнем,
сонечным прайменнем.

# СІНІЦА

Месячык сонна гарэў
у светлазорай старонцы.
Ткала сініца красёнцы,
шчыглік ёй ручанькі грэў.

Ветрык ёй вочы гаіў —
вочы ад працы балелі.
Ткала сувой на арэлі,
гожы маленства наіў.

Пеўні вялі на прастор,
градам бялілі аснову,
песні бяссоннай абнову...
Шчырасць — адзін яе ўбор.

Сцежку сную ад вады.
Ніткі пакручаны ў долі.
Я не шукаю патолі.
Сціснуты вусны заўжды.



## ДА НЁМАНА

Прыслалі мне воблакі шчыры вечар.
Вясёлка ў акне.
І Нёман свае магутныя плечы
падставіў мне.

Ад Стоўбцаў сам спяшаеш спрадвеку
пешкі праз край.
Вазьмі мяне пад сваю апеку
і сілачкі дай.

Мне далеч думак замгліла ўчора
паводкай бяды.
— Скіруй свой лёс у людское мора! —
намовіў ты.

Адхланне духу — бруістай мовы
крынічны ток.
Закінь жа скруху за бор дармовы
у змрок!

Душа змялее, калі здалее
бяда-вампір.
А як ачысціць душу ад глею?
У вір!



Як у цябе не знайшлося
ані кроплі надзеі,
каб прысылаць са святочнай паштоўкай,—
прышлі мне жанчыну з касой.

Як не застанецца
ані кроплі надзеі
на адраджэнне народа майго,—
я памру на два пакаленні раней,
чым родная мова памрэ.

Сын і ўнук набяруцца трывання,
каб ажывіць у душы нашу мову
і перадаць сваім дзецям.

Жанчына з касой — адрачэнне.
Смерці не будзе.

## ЗАМЕСТ ЗАПАВЕТУ

Мы адбіваемся адно ў адным.
Ён пачынае шлях і я канчаю.
І клуначак расстанняў за плячамі.
Жыццёвы страх развеяўся, як дым.
А Стаська шчэ не ведае аб ім.

Ён проста радасць давярае ножкам,
якія растапырвае знарок,
бо чаравік развязвае шнурок
і слізкі спод разгневаных дарог.
І зоркі ў пыл ссыпаюцца гарошкам.

Даверна сашчапілі дзве рукі,
нібы спрадвеку, пойдзем нацянькі
мы поруч, хоць у розныя бакі.
Ён — немаўлятка, ды гаваркі.
Я прыслухаюся, мой час такі.

Хачу яму пакінуць назаўжды
надзею, што мяне з жыццём злучае,—
ад любасці да ціхага адчаю
свет захаплення, прадоння чараў,
не даўшы ні пясчынкі глухаты.

Любі, Стасюк, спрадвечную раку!
Натоліць смагу рыбцы і катку
і рытмы выб'е — Нёман, бы скакун.
З абрысамі барока і мадэрну
мне горад наш быў дзецюком пяверным.
Сіл не шкадуй яму, не жабраку.

Любі, Стасюк, людзей, і нават злых.
Малых, слабых. Яны не вінаваты,

што пакалечылі сябе аб страты,
не паважаюць сябе саміх.

Любі, Стасюк, свой край,
хоць край — не рай.
Уклад дзядоў ніхто не перайначыць!
Старайся людзям працаю аддзячыць.
Быў у цябе дзядуля — не гультай.
Працуй, удалых рук не пакладай.

І я свой шлях між працай завяршу:
грабельніца — на лузе стог вяршыла.
Краўчыха — з кужалю кашулі шыла.
Спалю дашчэнту і сваю душу.

Не бойся адзіноты анідзе.
Не адзінокі ты — з табою продкі:
дружына Каліноўскага і Цёткі,
князь Усяслаў, празваны Чарадзей.
Пра іх штодзённа помні, не на ўгодкі.

За рукі ўзяўшыся,
ты ўверх, я ўніз — хадзем.



Высокая гара
расце між нізкіх гор.
Зблуканых лёсаў-зор
шукаць мая пара.

Узняцца з глухаты
за мову, за народ.
Знайсці ў гняздзе бяды
жар-птушчына пяро.

Для ўсіх, што ўмерлі, слоў
дастаць жывой вады.
У выйгрышы заўжды —
хто вытварае зло.

Стэрэатып на злом —
не наталяцца злом.
Навучымся ў буслоў
прыносіць шчасце ў дом!

З няпраўдай на нажах
высокі дзень сустрэць,
ды не наводзіць жах,
але зарой гарэць.

## НА ПЛЯЦЫ ПЯТЛІ

Адна ў заснежаным да зніку краю,
забытая, няма ў мяне нікога.
Ёсць ты, Кастусь, і я цябе кахаю —
у сэрцы — несмяротнага, як Бога.

Няпраўду кажуць, што цябе павесілі...
А дзе ж тады грудочак надмагільны?
Не сцерагуць засценкі, месты, весі.
Твой мужны дзень пятлі спаткаю ў Вільні.

Збярэцца гурт адчайны, гаманкі,
як быццам бы з табой —
інтэлігенты —
пакуль не сваякі, не інсургенты,
збіральнікі надзеі, дзецюкі.

У дзецюкоў, сыноў сваіх паверу,
у тых, якія вырастуць яшчэ,
шчэ не вайстрылі прадзедаў сякеры,
ды працінаюць гастрыём вачэй.

Абуджаных і са шляхоў не збітых
злучыць высокай доляй паспрабуй,
Кастусь,
прачніся зноў, паўстань з нябыту,
вядзі нас на ахвярную сяўбу.

Мужыцкай праўдаю загавары
да Беларусі ўсёй з высокіх моўніц!
У Жаннаў д'Арк змяні сучасных модніц.
Свабоды крылы простаюць вятры.

Мы не адродкаў племя, мы — народ!
Узнімемся ў нябёсы гордым клінам!
Ускалыхнёмся сэрцам сакаліным.
Даволі наблукаліся ўразброд.

З нядолі ўзнімем замчышчы, палі.
Скіруем думкі да бунтарскай працы.
У Вільні, на пятлі паўстанцкай пляцы,
клянёмся вырвацца з тваёй пятлі.

* * *

Сэрца народа паклалі ў дамоўку.
Думалі — сціхла, утаймавана.
Але жывое прабілася зноўку
цераз грудочак у Мастаўлянах.

## ЯКУШОЎКА

Якушоўка — супольнай сям'і нашай хата.
Печы падмурак.
Ветравы ўсхліпы.
У Раманаўцах неба лягло вінавата
на братоў Каліноўскіх несмяротныя ліпы.

Хочаш жыць шэсцьдзесят год —
пасадзіш таполю.
Два стагоддзі жыць хочаш —
пасадзі сабе ліпу.
З раскошай быльніку і куколю
ад беспрасвецця да куракліку.

Валяюцца тут чарапкі таго кубка,
з якога выпіты сумесны наш боль.
Як прынявольнага часу зарубка,
смецце грабецца курамі наўкол.

Пад ліпамі — статкам здратаваны выган.
Ракі Калонкі папростаны выгін.
Зажураны вочы нябеснага схілу
над зглішчам супольнай нашай магілы.

Прыціснута сном наша доля, заклята.
Агонь нашу долю тут і насціг.
Зрабілі раскопкі, каб вырасла хата,
ды хаты не могуць, як дрэвы, расці.

Раскошкалі куры нат дзікія слёзкі.
Некалькі шкельцаў на памяць бяру.
Стапталі магілы бацькоў Каліноўскіх.
Над сына магілкай маўчыць Беларусь.

Прад помнікам сціплым у Свіслачы-месце
братняе мовы пануе нашэсце.
Сляпучаю мовай «Мужыцкае праўды»
мыляюцца нават касец і араты.

Каля калыскі шчаслівыя маткі
мовы цураюцца, і анігадкі.
На братняй шчабечуць прачулыя словы
да беларусаў белагаловых.

Ад нараджэння абкрадзены душы.
Выпалаць, бы пустазелле з гарода,
з думак і сэрцаў мову народа.
Самі ў сабе ўсё жывое заглушым.

Як жа так можна плакаць балесне!
Запрычытала!
Ды што ж я чаўплю!
Як без няволі ды лезці ў пятлю?
Верай душы Каліноўскі ўваскрэсне!

Чысты наш люд. Хіба ў чым вінаваты?
Верай уздымем дзяцей нашых лёс.
Долю, як скабы знішчанай хаты,
мы дабудуем да ясных нябёс.

Высака ўзнімем сямейкай юнацкай.
Душы ажывяцца сілай надзей.
Будзе далёка свяціцца, як цацка.
З дальніх дарог панаедзе гасцей.

Бо Каліноўскі з любоўю да людства
выйшаў на іпэры вясковы папар
супраць слабых недавяркаў і хлюстаў
словы і косы ваістрыць, нібы жар.

Хопіць у хлопцаў жыццёвасці, веры.
Не дачакаюцца трупаў крукі.
Скосім адступніцтва, мы — касінеры,
сейбіты долі сваёй, дзецюкі.

# ВЕРА

Захавай, Белавежская пушча,
Кастуся Каліноўскага сцежкі,
каб і зубр яго след не раструшчыў,
каб раслі тут зялёныя стрэшкі.

Чарадзейнай валодаюць сілай
лекі зёлак тутэйшага поля.
Над магілай вялікага сына
узыходзіць высокая доля.

Шчэ мы дойдзем да ўласнай навукі.
З-пад павек яго позіркам глянем.
Падрастуць Каліноўскага ўнукі —
сакавік іх напоіць змаганнем.

З небыцця — незабыту сумежжа
заіржалі паўстанцкія коні.
Ад паўстання яшчэ Белавежа
не супыніла Пагоні.

# СУПОЛЬНА

Люд вакол абязмоўлены свойскі.
З кім жа шчырае слоўца замовіць?
Ці ў нябёсах на матчынай мове
размаўляеш, Кастусь Каліноўскі?

Ты на віселько йшоў за Радзіму,
ды яе выракаюцца дзеці.
Дыялект свой — дыямант праўдзівы —
выкідаюць з застрашкаў на смецце.

Ім наўме толькі скокі ды гулі.
Вёскі мруць, не запальваюць печаў.
На нябёсы ўзыходзяць бабулі,
хто малітву штораніцы шэпча.

У Мсціслаўлі, Навагрудку, Вільні
шчэ відушчыя словы, як духі.
Пад страхою кассё і цапільна...
У нябёсы рывок ад задухі.

Бунтаванне каціласа валам
па збунтованых рэках і пушчах.
Кастусю, як цяпер нефармалам,
бракла часу даслухаць відушчых.

Калі чуць толькі ўласнае сэрца,
лепш стрымаць яго, каб не грымела.
Ды яшчэ Беларусь не памерла!
Шчэ супольна сямейка збярэцца!

# ДЗЯДЫ

Як хмары вытрушчвалі зрэб'е,
ты громам з нябёс мне галёкаў.
Сустрэнемся, хлопча, на небе
сярод патаемных аблокаў.
Дзе скрыўджаных доля агніцца,
дзе мовы іскрыцца вясёлка,
на покуце божым высока
пасядзем, дзядзькі і сястрыца.

На сойме спрадвечным, на небе,
дзе хмарак засланы абрусы,
аб мове, нібыта аб хлебе,
сумовяцца ўсе беларусы.
Тут мусілі бавіцца пекна
сляпымі шчанятамі ў пельцы.
Хапіла зямлі нашай пекла
на роднай прасторнай зямельцы.

Паўзуць крыжаносцы, татары.
Чужак у дрыгвятніку вязне.
Падасца — раз'едуцца хмары,
ды сонца бліпчыць невыразне.
Серп месяца рэжа не гостры.
А жнеек угадваем рысы:
то нашы нязломныя сёстры —
Рагнеды, Адэлі, Ларысы.

Даволі нас праўдаю мучыць!
Даволі нам цемры абноскі!
Усходзяць настаўнік і вучань —
Скарына й Кастусь Каліноўскі.
Хто змушаны рана памерці
ў крывавых абдымках Аўгана,

жывым вырастае з кургана
балець у матулiным сэрцы.

Святочна раз'ясняцца золкі,
узыдуць зіхоткія зоркі.
Між іх нашы продкі — анёлкі,
птушыны іх шлях і высокі.
Вяртаюцца ў род свой дзяды
з упарта зашчымленым ротам,
каб мы засталіся народам
на роднай зямлі назаўжды.



Глядзіш з партрэта на мяне здаля,
як сыну, я кашулю-долю шыю.
Адкуль жа доля, як такую шыю
не рукі абнімаюць, а пятля?

Адкуль жа шчасце, як такія вусны
не зорка цалавала, а зямля?
Хай уваскрэсне народ наш мужны!
Народа не народзіш спакваля.

Кашулю шыла, долі не пашыла...
Радзіме смерцю даказаць любоў!
Сабе на шчасце кроў пульсуе ў жылах.
А на алтар праліць патрэбна кроў.

Пакуль па пругкіх жылах кроў цячэ
халодная, няма нам даравання.
Як здолееў ты падняць усіх дазвання,
ёсць вера — нехта здолее яшчэ.

Яшчэ не расцягнулі нас крукі.
Бульдозер гай, гасцінец не раструшчыў.
Дык выйдзе хлопец з Белавежскай пушчы
ці з вёсачкі пушчанскае Грынкі
і павядзе людзей на Менскі пляц
пад нашым чыстым беларускім сцягам.
І не загінем. І не станем прахам...
Спяём Радзіме песню, а не плач.

# ВУЛКА ПАЎСТАННЯ

Дасвеццем з-пад пакатае дахоўкі
падстрэхаўкі звястуюць навіну:
— У пятках, душы, пакідайце схоўкі!
На Котры косы клеплюць на вайну.

Дыханне стояць пушчы, далягляды.
Грымотны грукат даляціць да зор.
Падружыць смерць паўстанцкія атрады —
зяўро гармат нацэлена ва ўпор.

За шыбеніцу будзе ўзнагарода —
край ачышчальным болем заімгліць...
І грозны гул бязмоўнага народа
ўзарвецца пошчакам па ўсёй зямлі.

Таму, хто выйшаў са змагання дужым,
абніме шыю царская пятля.
Ды несмяротныя паўстанцаў душы
зноў пераселяцца ў немаўлят.

# ПРАМЕННЕ ДЗЁН НА ВУЛІЦЫ АЖЭШКА

З-пад яснага блакітнага застрэшка
суровы вартаўнік газоны стрыг.
На непрачытаных старонках кніг
прыгод чакала вуліца Ажэшка.

З карчмы «Раскоша» мела шмат набытку,
святочна пачыналася з карчмы,
выскоквалі з карчмы,
як на падпітку,
з лабатымі фасадамі дамы.

Абцасік модны маладой Элізы
драўляных ходнікаў
кранаўся ледзь.
Дзяўчаты з хлопцамі ішлі глядзець
у батанічны сад начы капрызы.

Раптоўна выбухаў пажар на твары
і громам узрываўся ціхі двор,
як бегла я па левым тратуары,
а ты паўз вочы шыбаваў ва ўпор.

У шкарлупіне моднага арэшка
наступнасць з даўнім
не ўвайшла ў хаўрус...
На зруйнаванай вуліцы Ажэшка
і наша маладосць разбіта ўдруз.

## ПЯСНЯР

Спяваў у прыціхлай зале
песню з прысмакам жалю,
якую з памяці клікаў,
шчаслівы спявак вялікі.

Даўнюю быль пра ўчора,
пра коніка і сядзельца
стаіўшыся слухаў горад.
Дабрэла горада сэрца.

Людзям было не сорам
аплакаць далёкае гора —
забытых прадзедаў лёс,
што з памяці ў песні прывёз.

...Згубіў цябе, маці-доля,
сам не ведаю дзе.
Адна ў мяне песня-донька,
яе калышу ля грудзей.

Сталы абрускам заслаены.
Не маю родных да славы.
Такі спявак без народа,
які ратай без нарога.

Хатка дзяцінства ўваскрэсне
ў лінзе слязы на вейках.
Мяне ўзгадавала песня.
Яна мне зачыніць века...

## БАТОРАВА ГОРКА

Уціснуў пагорак між бору
горб, як адплату за здраду.
Некалі ладзіў Баторый
тут на ятвягаў засаду.

Нібы на скуру мядзведзя...
Жудасць наводзіў і страх.
Цэліў у сэрца, як згледзіць,
быццам бяздухі ятвяг.

З раны пунсовую струнку,
не абарваўшы, каналі
і не прасілі ратунку —
зроду былі дзікунамі.

Стрэлы гудзелі, як восы...
Сэрцы як стрэлы-націнь.
Шлях у зямлю і ў нябёсы
ў долі ятвяжскай адзіны.

Здзейсніцца лёс невідушчы...
Прымхаў ятвяжскіх сутонне.
З нетраў ятвяжскае пушчы
вырвецца люд і патоне...

Колькі ў ятвягаў ахвяраў!
Знішчана мова і завязь.
Помсціце, Нёман і Нараў,
Чорная Ганча і Ятвязь!

Помсціць каму — невядома.
Помснікаў не засталося.
Чорная навалач — стома.
Людства дашчэнту звялося.

Пушчы на мове той гоман
слухаюць косці ў магілах.
Толькі запозпены гонар —
кропля крыві ў нашых жылах.

Нам зараз лепей ці горай?
З іхняй, з зубрынай мы скуры?
А на лаўцоў з непакорай
выйдзем — ятвяжскай натуры?

...Выйшла, бы прывід, з-пад ночы,
глянула ў вочы ятвяжка.
Холад у логаве воўчы.
Кон ёй — што дыму зацяжка...

...Біўся для славы кароны.
Кош разрываў ля фарпостаў.
Спешыўся — безабаронны
перад дзявочаю помстай.

Бы паляўнічы распусны,
зграбны — прад ёю, разутай,
пацалаваў яе ў вусны —
вусны былі ўжо з атрутай.

Мужна палоніўся ў пастку.
Голаў паклаў ёй на рукі...
Нібы не ён выйграў княству
Полацк, Вялікія Лукі...

Нібы не князь гэты самы
з войскам у непагадзь мокнуў.
Згрукаў у Горадні замак
з залай шасцінаццацівокнай.

Млын збудаваў ды склад солі...
Выцерпеў жонку-няўклюду.

З ім папаехала з голі
мноства вучонага люду.

Кнігам не трэба таможні,
школам ды бібліятэкам,
кажа казанні бязбожнік —
сябра яго Каспар Бекеш [1].

Але прыціхлі прамоўцы.
Не ў ратнай бітве ад ран —
нішчыць жыццё ў Батароўцы
шляхціц Батура Сцяпан.

Практык Мікола Бучэла
п'яўкі пускае на цела.
Знаўца Сімоні Сымон [2]
грэе віном восем дзён.

Потым раздзьмухаюць буру —
сварку на цэлае княства —
што даканала Батуру —
злая падучка ці астма?

Труп яго зрэжуць на клёцкі.
Мала ім скуры бычынай —
спішуць, не знойдуць прычыны —
мёртвай ятвяжскай дзяўчыны...

Дзеўка паслала на звод.
Помсціла так за ятвяжца.
...Караляваў дзесяць год,
месяцаў сем, дзён дванаццаць.

---

[1] Вядомы атэіст, сябра караля і вялікага князя.
[2] Мікола Бучэла і Сімоні Сымон — лекары Стэфана Баторыя.

Сведчыць, дзе позірк апёк,
дзе пачалася гаворка,
дзікага хмызу гарбок...
Баторава горка.

Пушча ў абдымках раллі...
Вёсак, мястэчкаў бярэмя.
А ці ятвягі былі?
Можа, і мы з таго племя?

Хочацца й нам цалавацца,
ды не ў палацы — на пляцы.
Міма лятарняў мігання
ў сэрцы крадзецца каханне.

Вабіць з расою зрадніцца
ў цемры каля Гарадніцы.
Міма развагі з Нёмана кручы
скоцімся ў вір немінучы.

# ЛІЛЯ НАДОЛЬНІК

Пад роднай самотнай гвяздою
надзеяй асветлены лёсы.
Праменіцца Ліля Надольнік
між зорак-дзяўчат светлакосых.

У свяце Наташы і Сашы.
У сціплым каханні Сяргожы.
На ўквечаных долах і пашах
красой яе грэецца збожжа.

Праз вёску лёг шлях не збаўляцца
дачок, і яна не растраціць
агню міласэрнасці бацькі,
цярплівай упартасці маці.

Ад бляску ў вачах заагніцца
памыснасці папараць-кветка.
Ў навуцы яна — мілавіца,
спадыня яе, не суседка.

Сцяжыну праверак, знаходак
спаўюць святаянкі, расходнік.
Ад нацкаўскіх песенных цётак
душа твая, Ліля Надольнік.

Твой воблік, уяўлены шчасцем,
ратунак пабітым наводмаш.
Не можа ў нябытнасць прапасці
з такімі дзяўчатамі род наш.

# СЛЕД

*Археолагу Алегу Трусаву*

Улетку рана сонейка ўзыходзіць
і п'е з ракі Міранкі сырадой.
Вучоны з маладою барадой
вярнуўся ў Мір назад на тры стагоддзі.

Шчаслівы — там адпіў нябёсаў кубак,
а словам-срэбрам падзяліўся ўсмак
з сябрамі, назбіраў караляў любай
і цэглаю напакаваў рукзак.

Мінуласць ззяла зеленню, блакітам.
Спявала жаўранкам са шкляніц шкло.
Вучоны паміж небам і нябытам,
як птах, лятаў, пакуль было цяпло.

Нібы малы, гуляў, раскладваў кафлі.
Арнаменты прыводзілі ў захоп.
Раптоўна промні сонейка ачахлі.
Зімой адзін мароз вядзе раскоп.

Цагляр у тым, забытым, на цагліны
у формы цеста з гліны клаў і клаў.
Старэйшы сын мясіў, падносіў гліну,
а дочачка на сонейку расла.

Натхнёныя — не ведалі спачынку,
але малой не праганялі прэч.
Яна ступіла ножкай на цаглінку,
пакуль цаглінку не паклалі ў печ.

Гліняным птахам удыхнулі песні
майстры, іх песнямі сагрэлі шыр.

З цаглін, замацаваных у агмені,
з умельствам збудавалі горад Мір.

Замураваныя на сем пячаткаў,
грымелі заваёўнікаў вякі.
Але дайшоў з любоўю да нашчадкаў
слядок маленькі майстравай дачкі.

## ДНЯПРО

Недалужнаю чапляй здалёк
да цябе прыляцела
і паклала на хвалі
звярэджаных словаў радкі.
І галінка душы
на сучку занядбанага цела
зелянее,
загоена шчырай любоўю ракі.

Я шукаю людзей
у вясковай глушы і ў сталіцы,
каб заняць зацікаўленай спрэчкай
свабодныя дні,—
не знаходжу нічога нідзе,
акрамя мітусні...
Я прыйшла да Дняпра,
каб раздоллем яго наталіцца.

Аж да стомы вачэй
навакол наглядзецца спярша.
Прытуліцца да зрывістай стромы
шчакою вільготнай,
дзе душа беларуса шчырэе ракой паўнаводнай
і адкрыта рака перад небам,
нібыта душа...
І на вока відно,
што Дняпро мае нораў не скнары.
Не адчаем, надзеяй
ты сэрца маё растрывож.
Абдымі мяне моцна
пяшчотнымі пальцамі старыц.
Напаі — два вядры глыбіні
падае табе Сож.

Рызыкую над вірам
наіўнай дзяўчынкай малою
гушкануцца,
павісшы на родныя рукі бароў.
Рызыкоўнае выйсце ўсвядоміць —
прыехала ў Лоеў,
разагнаўшыся з горачкі,
замуж пайсці за Дняпро...

# БЕЛАЕ ВОЗЕРА

Сэрца самой Беларусі —
возера Белае.
Лініі вен электрычных
пралеглі наўсцяж.
Тахкае гулка ў рэбры сасновага берага.
Белыя чайкі прыручаны Нінай Мацяш.

Стому, пярэпалах змый,
загаі і загушкай.
І сірату, як дачку,
прыгарні да пляча.
Лёс нешчаслівых жанчын
трапяткой Драгабужкай,
нібы азёры,
самотныя душы злучаць.

Бераг палескі не будзе з-за нас засмучоны.
Стынем у леце лагодным, нібы на ляду.
Возеру Беламу
донарам-возерам Чорным
прагнем аддаць беспатольную сілу-ваду.

Прозелень хваляў,
настоеных церпка на зёлках,—
мусіць, што мы не замуцім
ні душ, ні азёр,—
узнагародзіла шчодра вячэрняю зоркай
і прытуліла рукамі таго, хто памёр.

Белае возера
вечнасці вокам здалося.
Неба ўздыхнула —
усплёснуў хвастом белы кіт.

Так паляцець бы белаю чайкай у просінь!
Возерам Белым
з прадоння глядзець у блакіт.

Здарыцца неяк само...
І спяшаць туды нельга.
Вочы мінулага дрэмлюць глыбока на дне.
Белыя воблакі
хай праплываюць па небе.
Чорныя воблакі
хай патанаюць ва мне.

## ЧОРНАЕ ВОЗЕРА

Лета відовішчы мерала меркай.
Аднак вачам было мала.
Чорнае возера маляўнічай талеркай
млела каля высокага вала.

І на возеры хатка ў чароце стаяла.
Паляўнічы за качкамі з хаткі сачыў.
На світанні яго дубальтоўка страляла.
Але Чорнае возера тут ні пры чым.

Галышом разагнацца з пясчанага схілу —
і на дно — раздражненне, жуда, мітусня!
Хай завабіць сутонне гаючага ілу!
Ды і ў чорных азёр на душы чысціня.

Нават промні сасмяглыя падаюць вобземлю
ды з прадоння вадзіцу крынічную чэрпаюць.
Берагоў ні злучыць ані летам, ні восенню,
нібы з жоравам чаплю —
у казачку чэпаюць.

О, бяскрай прахалоды —
радзімы азёры!
Таямніцай сваёй зачаруйце мяне!
Мушу бераг адолець да ўпартае зморы...
Наталюся змаганнем ў бязмэтнай вайне.

## САМОТА

Жыццё самотнае — возера,
ні сутокі,
ні ўсчатку,
ні вызліву.
Застойнае.
Затамаванае.
Каламутнае возера з вязкім дном.
З засплыннью на паверхні,
з зацвіллю.
Ды з мачарынамі навокала.
Ні збаночкаў, ні вочкаў, ні кубачкаў.
Хіба слёзнік,
з ведзьміных слёз, расце.
Хіба што ад буры ўсхвалюецца.
Церпнуць рукі, і спанывае душа.
Думкі самі сабой знураюцца.
І не асядае мута на дне.
І не вяне снапок сумоты-тугі.
І накметнік штоночы мярэсціцца.
Ніхто ў возеры тым не купаецца.
Заплыве недасілак — магутам стаў.
І не мёртвае возера — неасельнае.
І не хворае — невызгойнае.
І няўзмогі трываць глыбіню-багно.
І не высушыць —
як жыццё.

## РАКУЦЁЎШЧЫНА
## 31 мая 1987

Хто нашу зямельку адновіць,
верне яе блакіту бязмеры?
Глядзіць у вочы Максім Багдановіч
вачамі зоркі Венеры.

Хто нашу мову замовіць
ад вуснаў злых, нечытэльнай паперы?
Глядзіць у вочы Максім Багдановіч
з надзеяй зоркі Венеры.

Хто нашы душы заслоніць?
У душы дзяцей хто ўкладзе крыху веры?
Гарыць высока Максім Багдановіч
ясным агнём зоркі Венеры.

А пушчы гамоняць вяснова.
А зорак зімова маўчанне.
Між зор накрэсліў Максім Багдановіч:
— Біце ў сэрцы нам, біце мячамі!

Лятуць і лятуць тыя коні
з атручанага Палесся.
І дзе ім пасвіцца сёння —
у полі, ў небе ці ў лесе?

Няхай напруга адхлыне...
Наш лёс нашых коней запрог.
Шчэ не затоплена наша Прыдзвінне,
і там сакаўны мурог.

# НЕГЛЮБСКІ СТРОЙ

Жаночы неглюбскі строй выяўляе сабой жанчыну як усясвет.

— На тым свеце нявема што будзіць, а тут жывем, красуемся, самавольнічаем.

*Ярына Тарасенка, 98 год*

Хусціна з наміткаю — сонца
з месяцам русым касы.
Зоркі-пацёркі і кікіцы —
у пояску кутасы.

Белае неба кашулі
«крыжам» ад шыі да ног
ўзорам ахоўных мядзведзяў
зачаравана па швох.

Перажагнаная тройчы,
каб не склялі, не ўраклі,
крацястае мора панёвы
падвязана паскам зямлі.

Збочце, галактыкі цемры!
Наша дыхнула зара.
У подданства?
Не — на звыцяжства
рукі жанчына ўзняла!

Кшталты душы — у пятнаццаць
мільярдаў светавых год.
Што, як будзе зноў пачынацца?
Спачатку дадумае стод.

З болю сусвет не ўмірае.
Чаму быць — то вып'ем да дна.

І на ўсе мірыяды распаўшыхся пар
лішняя долька адна.

І па-над чорным праломам
адчаю
        Чарнобыля дно.
У Ветцы паморак да зорак.
Цечы краццоў не відно.

Перад астральнымі прорвамі
праца не валіцца з рук.
Мучыцца самазнішчэннем?
Змаганне — ратунак ад мук.

Кветкай вясновай, нядзеляй,
прыбраная ў неглюбскі строй,
дачка Беларусі,
Надзея
чаруе красой маладой.

## ПЕСНЯ — ВАРАЖБА

На высокі песнязбор
з ночы-апаўночы выйду ў бор.
Стану тварам на правідны ўсход,
а спіною — на глухі заход.

Выйду паўзабытымі шляхамі,
за сабой шляхі замкну замкамі,
ключыкі — у сэрданьку на дне,
іх ніводзін здраднік не кране.

Павяжу на галаву хмурынку,
паясок — сярэбраны туман.
Заспяваю песню-сірацінку
чэрстваму душою на падман...

Покуль зоркі не заснулі зноў,
з кухліка налью гаючых слоў —
золкавых, крынічных і заключных,
з доляю-нядоляй неразлучных.

Абуджае плоць і сонны дух
песня, а не месік — ён аглух.
Выганяе з душаў перапуд...
Песня варажбою творыць цуд.

* * *

Вось дзе злучаецца неба з зямлёй
і абмываецца сонца зарой.
Бор надступаецца на вадапой.
Дробнае птаства наперабой.

Як жа разліўся Нёман ушыр!
Не разабрацца, дзе пойма, дзе луг.
Рэжа раўніну вада, нібы плуг.
Поўня паводкавых зрухаў душы.

Як абняліся вясна ды зіма!
Верад пачуццяў — хоць сэрца вымай,
хоць і надзеі на шчасце няма.
Грае музы́ка — паводка сама.

Гулам аглушаны сцішаны плёс.
Сніцца яму перазвон летніх рос.
Бусел высока і міма наўскос,
і анічый не кранаецца лёс.

Радасць на шчырае сонца выводзь.
Хай абнаўленнем руйнуецца плоць!
Гаўя да Нёмана мчыць самаходзь,
марыць наіўна ўхапіць за аброць.

І не ўхапіць, і не зацугляць,
і не злавіць, і вачмі не абняць,
не запыніць са шляху наўпрост —
вольна, наросхрыст і навырост.



## ПТАХАМІ ПРОДКІ БЫЛІ

Стогнуць стагоддзі.
Хто быў тут, той тут і застаўся.
Ніхто не прыходзіць, каб знікнуць.
Сны памятаюць аб птахах —
лётаю ў снах.

Душам шмат мейсца не трэба.

Прыгажосцю жанчыны мужчын
паланяюць.
Сілай духоўнай долю мяняюць.
Край наш трымаецца на апантаных.

## ЗАПАЛІ АД МАЛАДЗІКА

Запалі ад маладзіка
паходню любові
і можаш быць маім вадаром.

Толькі вядзі па долі,
якую выбрала я.

Выбрала шлях да людзей.

Ідуць яны нам насустрач
з пачуццём дабрыні,
каб ад цяпельца любові
расхукаць вогнішча
песні.

# ЭПІГРАФЫ

Больш як восем стагоддзяў
з наддзвінскіх абрысаў,
павярнуўшы пісьмёны да яснай зары,
з родным небам змаўляецца камень Барысаў,
каб атручаны хлеб
не ўзышоў на зямлі.

Тума, Копыс, Мікула,
Давыд і Варышка...
Захавала аўтографы з каменю кніжка.
І не змые імёны на Дзвіне крыгалом
у каменнага птаха пад правым крылом.

А пад левым крылом тускне колераў жар —
таямніца прычасця знімае цяжар,
адпраўляецца ў гонар майстэрства імша,
каб гарэла натхнёна ў народа душа.

## СПАТКАННЕ

Мы на пляцы спаткаліся.
Крыху
пастаялі — ніякага следу.
Ён паехаў у Прагу па кнігу.
Я назад у Гародню паеду.

У краіне, дзе слова, што порах,
між напорыстых думак адна я.
Невідочнае заўтра і ўчора
бессмяроцце Скарыны яднае.

Супраць здзірства сабой пратэстую.
Супраць невукаў-ваяўнікоў,
што Скарынаву кнігу святую
запіхнулі між тоўшчы вякоў.

Але думак не скончыўся вырай...
Ў беларускай найпершай сталіцы
мне, смяротнай, хацелася шчыра
да Скарыны душой прытуліцца...

Памаўчаць ля Францішка Скарыны
у высокім у месячным німбе
перад часам яго нескароным,
перад месяцам ясным на небе.

# БАЛАДА ПОЛАЦКАГА ГАРАДЗІШЧА

На старым гарадзішчы каля Палаты,
дзе віхор пагудасты не ступіць нагой,
як прыслалі сватоў з двух краінцоў два браты,
выбіраць мела права з дваіх аднаго.

Беларусь! Палачанкай глядзіш з-пад рукі.
Абцугамі цябе абнімаюць вякі.
Уздымаюцца замкі з дрымучых бароў.
А Няміга і Нёман, Дзвіна і Дняпро
свой пачатак бяруць не з адзіных пакут,
не ў адзінае гора ўпадаюць пакуль.

Але гора — не мора, хапае вакол.
Шчасце ўсіхняе ўмесціцца ў дзеўчын прыпол.

Пачуццё закіпела на джале мяча.
Абняславіў мяне у бацькоў на вачах.
Знішчыў бацьку і брата ў мяне на вачах.
Выбіраю няволю для ўсіх палачан.

Дзе не люд гаспадарыць, няпрошаны госць,
не князі вызначаюць жанчынам цану,
выбіраю няволю, блюзнерства, ману!
У самоце здзічэю, схаваюся ў злосць.

Хай мяне зацямняць на рацэ Злыбядзе,
каб не чулі чалядніці кленчаў ды слёз.
Уладзімір з варагаў Алову прывёз
ды Малфрыду, Адэлю пічэ меў кагадзе.

Апроч жонак, пасцельніц трымаў восемсот,
каб род князеў зухвалы не вымарыў звод,

каб захоўвалі гонар высокі сыны.
Чатырох нараджу дзеля братняй вайны.

Але месцежа тоўпіцца ў сэрцы на дне.
За бацькоў і зямлю сваю помста кіпіць.
Точыць думку спакуса: як моцна засне
Красна Сонца Ўладзімір,
крывёю замыць.

Ад нясмелай рукі цвердаскуры не ўмёр.
Загадаў апрануцца ў святочны убор.
Сам паснедаць спяшаецца ў княжацкі двор,
а пасля кумяльгом учыніць прыгавор.

Мог забіць нізавошта. Ды сын Ізяслаў
кажа: «Думаеш, бацька, што ты тут адзін?»
Князь: «Ды я сумняваўся, што ты тут сядзіш!»
І па звычцы татарскай абодвух паслаў.

Князь, сын ключніцы, чуў, як бразгочуць замкі.
Змалку слухаць куванне зязюль не прывык.
Ад красы, ад якой бляккнуць зор азяркі,
адмаўляўся зладумна — як просты мужык.

Лепей скораны воблік манашкі прыму,
чым застацца ў блудлівым прыпынішчы зла.
Сын па долі і полацкі князь Ізяслаў
зрубіць замак Заслаўе —
для маці турму.

Будзе праўнук на дзідах нябёсы трымаць.
Не закоціцца Полацка слава на спад.
Будзе вечна свяціцца Рагнеды імя
у стагоддзях
на вуснах тутэйшых дзяўчат.

## МАЛЕННЕ

Паміж двух гарадоў млее неба замглёна,
каб пад вечар палаць на адчайным агні.
Час ці вецер парваў правады тэлефона,
што ўсё лета не звоніш.
Ды лепш пазвані.

Я зашылася ў цішу, чаканнем прыкута.
На душы як бы путы, заглушаны крык.
Я — пакута, пакута, але не атрута.
Я — жывая душа твая, я — твой двайнік.

Покуль спеліцца лета над ростанню пекна,
загарае на сонейку, лашчыцца край,—
як пяшчотай нядаўна даводзіў да пекла,
так забыў
і святой мяне зводзіш у рай.

Я згару ад чакання, сама не прыеду.
Пашкадуй, пашкадуй, пашкадуй, пашкадуй!
На апошнім трагічным прыстанку Рагнеды,
дзе пясчаны гасцінец пятляе ў бяду.

На прыстанку, дзе тысячагоддзем скаваны,
абняслаўлены князем пакутніцкі храм,
каб сустрэцца, не суджаны, моцна каханы,
ценячок майго холаду просіцца там.

Там княгіні душу абнімае гардыня —
нескароную, дужую нат у труне.
Ды вясковая кроў без пяшчоты застыне.
Я слабенькая. Хто пашкадуе мяне?

* * *

Гарадзішча —
стагоддзяў прытужаных
жальнік.

Пустыш
без найменных магіл.

Вецер —
прыходзень,
жальбы прыглушальнік...

Слязінка
згарнулася ў пыл.

## БАЛАДА ПРА КНЯЗЯ УСЯСЛАВА ЧАРАДЗЕЯ

Ад валхвавання князь Усяслаў нарадзіўся
з меткай «і быcць яму язвіна на галаве».
У запаветных кутках і ў пісьмёнах Радзімы
дзевяць вякоў чарадзейства па князю жыве.

Роўнасці шчэ не прыдумалі людзі наразе.
Жорсткае права — хто не маетны, не пан.
Люд лацьвaверны гарнуўся да дужага князя.
Бацькам суровым лічыўся ён у палачан.

Просіць у князя збаўлення ад лютасці Кіеў.
Просіць і Менск, што знішчаецца ўдоўж
і наўскос.
Пскоў абпаліў. А з Наўгародскай Сафіі
нават званы са званіцы, бы дзічкі, абтрос.

Шчыра ў Сафійцы да Бога маліліся маткі.
Стод, шчэ паганскі, зябкую зімку паслаў.
На Чарадзея мудрага дзядзькі нашчадкі
першыя рвуцца, яго ж вінавацяць пасля.

Менскія дружбіты біліся мужна да смерці.
Ды адстаяць родны горад замала мужчын.
Іх прытуліла Радзіма. Жанчыны і дзеці
ўзяты ў палон, у абдымкі няволі-начы.

Вуліцы, вежы, муры зруйнавалі да лёхаў.
Што не спустошылі, дымам пусцілі на згон.
Знішчылі дух, не душу. Злудзень пустку
палохаў.
Спляжылі, нібы пад статкам дзічыны загон.

І не хапіла вады ў беспрадоннай Нямізе
кроў змыць з зямлі і з нявінна палеглых сыноў.
Хто не абняўся з зямлёй, той крывёю умыўся.
Спалены менскі куток да цямрэчы, да сноў.

Жорсткія ворагі замкі ўдаконь вымяталі.
З цела душу вытрасалі, душылі ўсяляк.
Здрайцы Радзімы прыкінуцца ўмеюць братамі.
Самым акрутным чужынцам бывае сваяк.

Вытрымаў неяк з дружынай і сорам найгоршы.
Ды як прысталі злодыра дзеці ізноў —
крыж цалавалі, спатканне прызначылі ў Воршы.
Жорсткія пыхі варункі — узяў двух сыноў.

Рукі скруцілі, у Кіеве здзірства ўчынілі,
нібы катоў, у поруб укінулі трох.
Сведку крыжацалавання саслалі ў Чарнігаў.
Каб не саслалі, сам бы патрапіў у лёх.

Полаўцы лупяць на Альце князёў і дружыну.
Кіеўскі князь люд абманвае — зброі няма.
Ды не правесці кіеўскі люд на мякіне.
Просяць паспольна Ўсяслава:
«Ты княства прымай!»

Княжыў сем месяцаў з праўдай,
у Полацку быццам.
І гарады раздаваў, і не спаў паначы.
Полацкі звон не даваў князю, скуль ён,
забыцца:
— Ды уцячы, уцячы, уцячы, уцячы!

Вось Чарадзей завінуўся няўгледкам і ходу,
з Белгарада дадому зваліўся, бы снег.
Слынны паэт тагачасны праславіў нагоду:
— Хорсу ўсуцемку цень Усяслаў перабег!

Водсвет пагоні, белай па жоўтаму сцягу.
Тупат гарачы, за ім чуюць кроў крумкачы.
Але ні быстру, ані зухваламу птаху
ад заваёўнікаў з роднай зямлі не ўцячы.

Межы Радзімы, яе самаістую мову
абараняў ад загубцаў, здрайцаў, вяльмож,
абараняў ад паветра, голаду, мору
і ад любові, якой выхваляцца чаго ж!

Бачыў і поўнач ад велічных веж
да гняздзечка.
Крыўдзяць народ і звіняць на Сафііцы званы.
Доўгае ў князя жыццё, ды згарэла, як свечка.
Але яго заступілі ў змаганні сыны.

Вось Манамах і пахлебнікі ўсе Манамаха.
З-пад навальнічнай хмарэчы грукат калёс.
Слуцак і Копысь і Друцк занялі адным махам.
Ладзяць драбіны, каб месяц абтрэсці з нябёс.

Месяц схавае хмарак хаморная кучка,
хай не паколе аб дзіды сваіх ясных шчок.
Потым засвеціць Прадслава,
прыўслічная ўнучка,
у чыстай крыніцы полацкі маладзічок.

* * *

Удасканалены
мёртвыя смерцю.

Незавідкі —
смерці прасвада.

Досціг смерці —
чыны жыцця.

Час
адцінаюць
надзеі.

# ЕФРАСІННЯ ПОЛАЦКАЯ

## 1. МАЛІТВА

Узышла высока асветы эпоха.
Колькі ж нарадзілася дужых дзяўчат,
каб у дванаццаць звярнуцца да Бога
і павандраваць да яго ў пяцьдзесят.

Шэнціла ж нам на акрутных чужынцаў!
Знішчаных імі, зняверaных шмат.
Укленчыла дзяўчынка за свет памаліцца.
Смагу наталіў шчырых слоў вадаспад.

На летапісанне ёй часу ставала.
Камяні і коп'і свісталі, гулі.
Храм прысніла ў сне,
а ў Сяльцы збудавала
за трыццаць тыдняў да скону зямлі.

Нібы дзіўны сон, той помнік нябескі,
светлы, як зямлі нашай спёка і стынь.
Дыхаюць гарачымі вуснамі фрэскі.
З горыччу ўглядаюцца вочы з вышынь.

На ахвярны шлях несмяротных пісьменніц
ад цялеснай прагі да горасных шат
як мага выводзіць сясцёр і пляменніц.
Да нябеснай сутнасці ўзносіць дзяўчат.

Паўз алей стагоддзяў яснеюць адкрыцці —
у тутэйшых золкаў лазурак густы.
Журацца на сценах пісьмёны графіці,
пішуць нам падлеткі з нябыту лісты.

Пачуццё ў заціснутых вуснах дзявочых.
Вусны пацалункам кранаў толькі крыж.
Як усё ты зведаў, о люд наш прарочы!
І натхнёна, горда, спрадвечна маўчыш!

## 2. САМААДРАЧЭННЕ

О прыгажосць!
Губіць кволае сэрца раскоша.
Ты на вачах, бы асенняе дрэўца, гарыш.
Плоцкія страсці духоўным мячом адсякоша,
цела — у пост, у вярыгі,
на кленчы, на крыж.

Доўга ты будзеш у сэрцы жарлівым княгіняй?
Гіне былое, што дым, потым ласкі прасі.
Слава, як порах, ды горай за павуцінне.
Дужых імёны, як зоры на небясі.

Яснасць аблічча схавала ў восеньскі прыцем.
Чорнаю шатай закрылася — не для пяшчот.
Воку — не бачыць.
Вуху — не слухаць.
Сэрца не скрыўдзіць...
Думкі збіраць, нібы пчолы руплівыя мёд.

У галубніцы пры вузкім акенку на лаве
свечкі спалох, амаль не патрэбен парог.
Кнігапісальніцы полацкай славы Прадславе
скінулі родныя гускі з надхмар'я пяро.

З нівы бяссоння высокія думкі збірае.
Твар не пабляк ад малітваў і дум уначы.
Як маладзік, узыходзіць над Полацкім краем.
Доляй пільгрымкі натхняе смяротных жанчын.

Так, прыгажосць без кахання намарна
не гіне —
роднай прыродзе аддасць віднаты белізну.
Стане ў тутэйшых стагоддзяў духоўнай
княгіняй.
Пераўвасобіцца ў Полацк, у сад, у вясну.

### 3. ПРАВІЛЫ ПАВОДЗІН

Веры наіўнасць на досвітку веры!
З часам туман яе ў душах замгліў.
Насцеж да кніг адчыняюцца дзверы —
стала пастаўніцай роднай зямлі.

Ўсіх пасадзіла за школьную лаву.
Мала малечам вясёлай гульні.
Летапіс пішуць пра Полацка славу.
Не захаваўся. Знік у агні.

Шчырая маці да дзетак выходзіць.
Дух уздымае ў братоў і сясцёр.
Створаны правілы школьных паводзін,
час за стагоддзі іх праўды не сцёр.

Ад узнікнення духоўных пачаткаў,
каб задыхнуліся мы ў цемнаце,
вораг душу вынішчае ў нашчадкаў,
мову і памяць адняў у дзяцей.

Мусім трываць, заламаўшы асінку,
покуль не зікнем, дзе боль не кране.
Каб пакараць мяне, б'юць цябе, сынку,
б'юць цябе, сынку, каб знішчыць мяне.

## 4. ЖАНЧЫНА З МЯЧОМ

Не пакараецца Полацак князю Мсціславу,
войска не шле на вайну і не плоціць аброк.
Садзіць ён княжацкі род на падсудную лаву
і высылае ў Царград, каб ніхто стуль не ўцёк.

Дома княгіні, князёўны ў святліцах не чахлі —
дзейсныя, мудрыя, цвёрдыя, што камяні.
Вось адкуль з'явіцца сімвал
на фрэсцы, на кафлі —
вобраз жанчыны з мячом вярхом на кані.

Колькі прабудуць мужчыны з сынамі на поўдні?
Суджана ім яшчэ ўбачыць прасцяг дабрыні,
каб памутнелы заход распагодзілі пожні?
Краю ахова — жанчына з мячом на кані.

Спіплых паводзін, высокіх святыняў ахова.
Пушчы занесці пяском не аддасць скавышу.
Матрыярхат, адухоўлены справай і словам,
край свой хацяша імеці, яка адзіну душу.

Раду прыняць Ефрасініну сэрцу на радасць.
Бачыць не хоча яна між сабой на нажах
ні з князем іншага князя, ні з братам брата,
ані слугу са слугой — усе, як душа.

Будуць бары скідваць шоламы, панцыры з
медзі.
Засмуж нябёс адамкнецца птушыным ключом.
Будзе вяртацца дружына з палонным
мядзведзем.
У небяспецы Радзіма — жанчына з мячом.

## 5. СПАС

Паспалітаму люду, як Богу, аддавала натхненне.
Непарушну храміну ўзвяла на разумным
каменні.
Ад паветра, агменю, ад голаду і ад вайны
зачараваную даўняй малітвай, бы чар даўніны.

Спас, узвышаны майстрам з каменя і плінфы,
пабялеў за стагоддзі, быццам скроні ад гора,
пабялеў ад зімы ў нашых сэрцах да забытага
ўчора,
не згубіліся ў памяці фрэсак паданні і прымхі.

І каменне ўміруча. Скамянелы, у камені выжыў.
Цуд з зямелькі, што корміць нас хлебам,
прывітаць яе выйшаў.
Скамянелыя знікнем, на ахвярным агні сябе
спалім,
Ды не знікне Радзіма і талент.

Не спраўляйма жалобы па песні, жывым
чалавеку,
дзе маліліся продкі,
дзе гучыць наша мова спрадвеку,
дзе ў паданнях і працай аспрэчваюць,
нішчаць, прымусы.
Незалежна, высока, прыгожа растуць беларусы.

## 6. КРЫЖ

Над Беларуссю
крыж Лазара Богшы узняты.
Вочы красою пячэ, быццам не ўкраў яго кат.
Восем слязін-камянёў —
нацыянальныя страты,
жомчуг — застылыя слёзы дзяцей і дзяўчат.

Дзве папярочыны — шэсць накірункаў
магчымых,
дзе спаконвечна засаду ладзіў чужак.
І дванаццаць аблiччаў з пазнаўшымі праўду
вачыма.
Укрыжаваны прарокі тут на крыжах!

Думкі ўзнікалі, бы промні, на прысланым
дасвецці.
Адчуванне шэдэўра на пальцах майстравых рук.
Разабрацца ў драбніцах дакладна
дапамагаў яму вецер —
адзіны світальны дарадца, таемных мараў
сябрук.

Малады быў, любіў ён Прадславу,
ды не так, як кахаюць мужчыны:
і здалёк зірнуўшы на сонца, аслепнеш,
а зблізку згарыш.
Натхнёны яе яснотай, стварыў,
што стварыць немагчыма —
як прызнанне ў любові, знак вечнай любові —
крыж.

Укрыжаваў ён сябе па векі вякоў без надзеі.
І адхланне знайшоў у зямлі.
І безліч мінула падзей.
Крыж грабежнікі ўкралі і збылі,
як збываюць зладзеі.
А вучоныя пішуць і пішуць пра крыж,
як пра будучы дзень.

Беларускі народ у вяках абакралі.
Ён выжыў.
І душу, і сваточную песню, і мову збярог.
Напрастольны крыж Ефрасінні збярог.
І не маем мы крыжа.

Толькі памяць пра цені крыжоў
ля крыжовых дарог.

### 7. НАТХНЯЛЬНІЦА

Тут, дзе варожыя стрэлы падлеткаў касілі,
здужала ўскласці цярновы вянок Ефрасінні —
подзвіг манашкі егіпецкай з пятага веку
з дальняга краю дзяўчынка прымае на веру.

Справай запята, нідзе не бывала далёка.
Сілы мужчынскай зачэрпнула вузкай
далонькай.
На жураўлінага выраю восеньскі гоман
павандравала, ад людства маючы гонар.

Сілай духоўнай узвысіла Полацк высока.
Тым, хто імкнуўся да кнігі, свяціла, як зорка.
Мове, адзінай дзяржаве шчэ толькі злучацца.
Свет нас прымаў як народ па адной палачанцы.

Болей зазззяла ў краі балотным яснoты,
а перад бляскам красы знікла зацятае зло.
...Наканаваны дзявочы абсяг адзіноты
тым, каго вартых мужчын у свой час
не ўзрасло.

Сталыя, моладзь, да слова пара падключацца
з поўнай напругай, даволі ўзаемных абраз.
Зверым душу па натхняльніцы, па палачанцы!
Дух уздымае ў нашчадкаў жаночы абраз.

* * *

Будучыня Беларусі —
старажытныя кнігі Скарыны.

Натхненне і талент нашчадкаў —
у вобразах вершаў Скарыны...

І не малее запас
з умалоту Скарынавых думак.

І як бы тут ні прыйшлося
адольваць упорысты лёс,—
выйграў нам час Скарына.

# ПРАЗАРОКІ

*Тамары Чабан*

У свеце, заселеным людам тутэйшым,
у свеце шырокім,
як возера Нарач, як песня, як чорнае гора,
свяцілася вёска з назовам святым
Празарокі,
калыска адважных, высокіх,
калыска празораў.

Без войнаў тады
нашым продкам амаль не былося.
Не мог у спакоі пакінуць зямлі нашай вораг.
Каб ворага бачыць, на ўзгорках паміж
вербалоззя
стаўлялі наўсцяж мігакі, дзе вачэй не змыкалі
празоры.

Ад пільных гадзін суглядання ўваччу амарока —
ці шоргнуў цянёк усуцемку,
ці наўспеш скаціўся буглёк.
Заўжды пад рукамі сухія сукі ў празарока,
заўжды ледзьве цвеліцца ў прыску жывы
вугалёк.

Ды бура ўзнялася і голле сухое растрэсла.
І вораг пайшоў.
І скрозьдоннымі сталі палі.
Празор ад душы падпаліў сваё сэрца, як трэску,
у вогнішча цела гарачаеператварыў.

Бо ён берагчы гэты лапцік
зямлі да нязмогі пакляўся.
Успыхлівы погляд празора
наперадзе ўсіх ваякоў.

Ад вогнішча пошугам
ведамка дойдзе да князя.
Да войска трывожную полынь
дакоціць ланцуг мігакоў.

А смерці не страх.
Паглядзі, колькі ўсіх запалала!
Адных засталіся імёны, а іншыя зніклі зусім.
Францішак Скарына.
Кастусь Каліноўскі.
Купала.
Мастак абразоў.
Летапісец.
Гарэцкі Максім.

Згарэць на ахвярніку людства!
Або на сугрэўным каберцы
пагрэцца, таймуючы сонную кволь спадцішка?
Гарыце, дзяўчаты, празорамі,
вы — праўдаверцы!
Не трэба, дзяўчаты, ад долі нікуды ўцякаць.



Узнавіць
успамінаў
руіны —
заагняцца блакітна
з-пад пылу.

Памірае сынок у Скарыны —
кніг барвінак
аздобіць магілу.

Не збылася
бацькоўская прага
паўтарыцца крывінкай
адзінай.

Суседская тклівая Прага
вырастае з жальніцы
радзімай.

Век Скарыны —
нібы на двубоі,
уцяжліва доляцца
з сілай.

Ад невымернай любові
выстыгае
Радзіма
магілай.

## СЛОВАМ СКАРЫНЫ

Ад маленства за працу
берымося старанна,
каб закрэсліць
да нас непавагі прысуд!
У шаснаццатым веку Францішак Скарына
несмяротнай душой
узвышае наш люд.
Колькі ж можна губляць,
каб людзьмі называцца?
Вось Скарына сумеў засланіць сабой сам
годнасць роднага слова
без гучных авацый,
што ў прадмове да кніг друкаваных
сказаў.

Ці ж з блакады вякоў
не здалеюць унукі
між братоў
яго Кнігу у вечнасць пусціць!
Патрымаемся,
узяўшыся моцна за рукі
па высокіх пляцоўках
і ў вёсках пустых,—
працавітыя, смелыя, моцныя духам!

На віхуры сядайце,
за руль, за стырно.
І не страшны ніякія нам завірухі.
Наша роднае слова далёка чутно.

Прыклад чыстай любові,
якой не скарылі,
даў Скарына...

Праз пяць мімалётных вякоў
у праслаўленым Полацку,
мовай Скарыны
уваскрошаны з праху,
спаткаемся зноў...

## ВЕРШАТВОРЦА
## СІМЯОН ПОЛАЦКІ

Жыў-быў паэт,
толькі слову-малітве адда괶ы,
рупны настаўнік, манах,
міласэрдзем гарэў.
Музу епіскап Каліст
закаваў у кайданы.
Кінуў у замак.
Пасля перакінуў у хлеў.

Меў той епіскап да палачан
як бы літасць,
пашкадаваў ён паэту ратуг і дабра.
Птушку-душу згаладнелую звабіла сытасць.
Не абмінуў ён спакусы ўцячы да цара.

Жыў там пры царскіх палатах
амаль што ў раскошы.
Панегірычных напеваў шчэ Русь не пяе.
Ды палачане — муляры і кніганошы,
рыбы — віры,
птушкі ведаюць гнёзды свае.

Як мог пакінуць свой горад,
што досвітак зорны!
Свет галубніцы захмарнай у манастыры!
Сціплы асветніцкі лёс памяняць на прыдворны!
Нават імя родны горад яму падарыў.

Не прыгадала б у Полацку людным аб гэтым —
сэрца запоўнена шчырым сумоўем. Але
на бескарысця супынку сустрэла паэта —
тварам да неба на старадаўняй пліле

зоркам іграў сваю песню, пакуль не паблеклі.
Прадзедаў шлях услаўляў малады беларус.
Шчэ не купілі за грошы ні людзі, ні ў пекле.
Але вакол аж кішэла ад розных спакус.

Здраду бацькоўскаму слову, няславу пісьмёнаў
час літасцівы
і з ганьбай з душы не сатрэ.
Гэты, з пілой, адпакутуе за Сімяона...
Рукапіс вершаў на бацькавай мове згарэў.

Вусны вякоў не залепіш маўчання пячаткай.
Рукапіс тлее. Сорам не тлее ў агні.
Продкаў віна ападзе на рамёны нашчадкаў
ганьбай і горам.
Не забывайма віны!

Хіба Радзіма сама зберагаць нам павінна
у галубніцы пад месяцам годны пасад?
А за плячыма ўзыходзіць Францішак Скарына —
вечнага месяца ў даўнасць і прышласць пагляд.

Звязаны з людствам пярэвіткай крэўнасці
ў лёсе,
братняй крывёю і доляй — мы, крывічы.
Гонар паэту спаліцца паходняй на стосе
перад народам, песню яго пеючы.

* * *

У праўдзе
падману няма.

Мана
псуе тысячы праўд.
Дармо —
калі прышлы злыгаў.

Прыблудзе даверу няма.
Прыблуду пасадзяць абоч.
Прыблуда з'явіўся, як дождж,
і знікне ў зямлю,
як прайшоў,—
ці шорсткі,
ці мяккі, як шоўк...

І лужыны сонейка зліжа...
І сонейка ў неба адно.

Шануецца тое,
што бліжай,—
не знікла бы далей
адно.

# ЧЫРВОНЫ МОСТ

Неба прымае дойлідаў справы —
над прадоннем рэк выступаюць масты.
Ды з левым берагам злучыцца правы!
Звонкі з маўклівым!
З пакатым — круты!

Зеленавокія дзеці і росы.
Душы, прамение, вякі — навырост!
Доля Дзвіны — не русалчыны слёзы...
Ад крыві чалавечай чырвоны мост.

З краю Радзімы ў Полацк у госці
сцежкай птушынай спадзеўкі вядзе —
з духам Скарыны спаткацца на мосце,
з доляй, надзеяй раднейшых людзей.

Ды з якіх краёў чужанік ні прыходзіў!
Колькі ў вір штурхнулі ад змроку вякі!
У тысяча восемсот дванаццатым годзе
па сем тысяч галоваў на абодва бакі.

І цары, і комтуры, і напалеоны...
З прагай крыві і жаночай жуды.
Над крывёй узвышаецца мост Чырвоны.
Плавяць плыты па крыві Палаты.

## У ПОЛАЦКАЙ САФІЙЦЫ, 1986

У Сафійцы граюць арганы.
Слухае край курганны.

Вырываюцца гукі праз тоўшчу вякоў
за муры з высокіх акоў.

Запаўняюць Сафійку высокім болем...
А над палескім атручаным полем
адважным людам вядзецца бітва.
Гора, што брытва.

Дняпроўе — прорва.
Не Прыпяць — прыпек.

Жабоцькі скачуць па лугавіне
і паміраюць... Жывое гіне.
О велічных гукаў Прыдзвінне!

Адкуль на даўняй кафлі хімеры?
Адкуль на фрэсках тыгры, пантэры?
Адкуль у казках цмокі, гіепы?
У колькі каленах парушаны гены?

І ў птахаў сэрцы, а не маторы.
Рыб касякі не адмыюцца ў моры.
Але народ прыгажэе ў горы —
прыцiхлы, хворы.
Душой празоры.

Скідае маску — цнатліва ранны.
У стольным Полацку граюць арганы.
Як некалі стрэлы з прадзедаўскіх лукаў,
град сумных думак з-пад гукаў...

Няўжо гуртом прапусцілі свой час?
Няўжо прырода пакінула нас?
Няўжо загублены нашы сэрцы?
Няўжо то жалоба па нашай смерці?

О крышку адхлання, шчырыя гукі!
За вас, наступных вякоў унукі,
Прадслава малілася ў галубніцы
ва ўзнятай да музыкі неба Сафійцы.

Заўжды раптоўна сціхае гранне.
На клавішы падаюць рукі сумленна.
Мінулае лепшым ужо не стане.
Яго не змяніць. Ды заўтрае — зменна...

Паўстаньма ў музыцы талакою —
адны ў забытым даўно спакоі,
іншыя — з'явяцца праз стагоддзе.
Арганы граюць па ўсім народзе.

## ПРОДКІ

Здзірванелым аблогам драмалі вякі.
Збажыной засявалі аблог крывічы.
А вятрыска на восях ганяў ветракі
і скрыпеў:
«Кроўка-кроў, з крывічоў не цячы!»

І гарбуля-каса, і сярпочак-вятлюк,
і саха, і клявец прырасталі да рук.
Ленаваўся ў край-бор бегчы сонны вяпрук.
Папялясты каняка —
найлепшы сябрук.

Птушак з гліны і цеста выносілі ў гай,
каб вясніца прыйшла да сялянскіх акон,
быццам птаства ў вясны бракавала наўкол,—
разлягаўся ў бязмернасці зладжаны грай.

У мужчын маладых за душой ні граша.
Каб каханыя вочы гарэлі ярчэй,
бісер колеру воч да зялёных вачэй
па дзірхему за слёзку плаціла душа.

І каханне разбурвала родавы лад
ля Дняпра, каля Нёмана і за Дзвіной.
Але шмат чалавецтву нанесена страт
праз каханне мужчыны да жанчыны адной.

Дзе каханне, там рэўнасць. Святы недавер
да суперніцы-зброі — сякеры, касы.
Небяспека над краем:
касец — касінер.
А якое расстанне без шчырай слязы?

Пакаленні мяняліся ў муках жанчын.
Паміж змроку і холаду доўгай зімы
зрэдку бліскала шчасце — маланка ўначы.
Прарастайма з маланак гарачыя мы!

# ПАГАНСКАЕ

З начы цалуюцца кветкі нашча.
Ад znічкі ўспыхне ўспамінаў кнот.
Стамлёны прывід на сонным капішчы —
вяртае веру ў мінуласць стод.

Малітву пушча ўтварае нашча.
У снах дубоў несмяротны прашчур
дае нашчадку са срэбра прашчу,
каб не закінуў за свет прапашчы.

Упала прашча на цёплым грудзе.
За кім хто лётаў на край зямлі?
Праз боль праходзяць слабыя людзі.
Праз боль стагоддзяў усе прайшлі.

# ЛІТАННЕ

Святая зямля нашых продкаў,
застанься апорай нашчадкаў.

Замглёная зорка Рагнеды,
не была ты пасцельніцай здрайцаў.

Чарадзейны меч Усяслава,
вырвіся з логнаў на ворагаў нашых!

О сонейка Ефрасінні,
умацоўвай дзявочыя сэрцы.

Ясны месяц Скарынавай кнігі,
асвятляй нашу сумную долю.

Высокі талент Кірылы Тураўскага,
паўтарыся яшчэ раз.

Запалай, наша роднае слова,
спрадвечным святлом нашых душаў
і дазволь цябе піць, як жывую ваду
з лубяного карца ля крыніцы,
прадвяшчаць, як нясеш сабой праўду,
і таіць, як нясеш таямніцу.

На дзейнасць са шчодрым плёнам
паспрыяй нам, сучассе.

Вецер болю, прасейвай Палессе
праз адчай спапялёных вёсак.
Прадонне бяды нашай — Прыпяць,
каб жа дзецям цябе не піць!

# ГІСТОРЫК

*Памяці*
*Міколы Улашчыка*

У змрочную тую пару
знікалі з вачэй аднагодкі.
Закасаваў ён прысуд
знішчаных тут без пары.
Пераварочаў гару
пісьмёнаў — пакінулі продкі.
Кнігу пра люд працавіты,
як шчырую песню, стварыў.

З папак — запыленых нор —
крылцы развязваў ён птахам,
думкам...
Замкнулі ад свету
здраднікі іх на замок.
Пачуццям наперакор
мусіў пасціцца манахам.
Верны бацькоў запавету,
чытаў кожны бляклы радок.

Верыў — ад цітра да цітра
звяжа ўсе звенні.
Праўду дакажа, а пыл
над векам даўчаснай труны
настаўніка першага вытра.
Сонца ўвядзе ў сутарэнні.
Свет уваскрэсіць з магіл,
з небыцця, з даўніны.

# НЯЗГОДА

Зноў з гарнастая каўнер апранулі дамы́.
Цені, падцятыя цемрай, упалі на снег.
Любы, давай уцякаць ад халоднай зімы!
Толькі каханне тваё адагрэе мяне.

Дзевяць стагоддзяў гнятуць
на муры і на брук.
Як абручамі сціскаюць, нельга трываць.
Любы, напяты ў наш бок безвыходнасці лук —
цэліцца ў безабароннае сэрца страла.

Змрочныя сцены і змроку каменны парог.
Пасмы святла прасачыліся з нетраў зямлі.
Напластаванні стагоддзяў на плечы ляглі,
і не скрануць іх цяжару — лёс перамог.

Але ж не хочацца ноччу марознай канаць.
Крок са сцяны мураванай — прорва ў нябыт.
Любы, злаві з маладосці гнядога каня!
Хай уратуецца песня з-пад часу капыт.

Смерч наляцеў, але не спаліўся наш дом.
Душы спаліліся — і кожны першы памёр.
Дзе тыя коні?
Дзе любы з мячом і шчытом?
Дзе наша доля?
Песню спявае віхор...



## МОРА І СОНЦА САМОТЫ

Як прыснілася ў сне —
каля мора на краі зямлі.
Беларусь ва ўяўленні бялей,
чым бялюткія кірлі.
Ходзяць кірлі галантна па водмелі, нібы факіры,
кожным рухам крыла зачароўваюць:
— Сцішся, замры.

Растапляецца сонца самоты і ў мора цячэ.
Між самотай надзем'я і морам,
што гоіць падножжа,
я не бачыла прагных,
запоўненых палам вачэй.
Маладое жаданне маё тут заглухне, дасць Божа.

Паміж двух даляглядаў, якія згараюць цяпер,
сонца ўтопіць у мора свае незгасальныя мукі.
Знекуль сіла бярэцца любое цярпенне цярпець,
прытуляць да адхлання сасмяглыя вусны і рукі.
І святочныя птахі
ў чародку сваю не бяруць.

І душа не баліць,
што навокал не родная мова
і нікогачкі, каб развітацца ў начную пару.

Толькі ў сэрцы прыліў — Беларусь,
неабдымна, як мора...

* * *

Холаду змрочныя ноты.
Свет блізкі грэю адна.
Можна карцом адзіноты
вычарпаць мора да дна.

Ветразя на даляглядзе
смутку багром не дастаць.
Што ж мне з сабою парадзіць?
Прыйдзецца дужаю стаць.

## ЦЯГНЕЦЦА ДЗЕНЬ

Пад ветрыкам зранку цвіце, бы лянок.
Засмучаным сонца падміргвае вокам.
Спяшаецца хваль шчабятлівы гурток
заблытаць праменне...
А мора навокал

качаецца ўдзень, бы накормлены звер,
адвесіўшы неба завесу далёка.
Наперадзе, зверху — блакіту бязмер.
Навокал — паўнюткае мора, як вока.

Нібыта стамілася лашчыць людзей,
да берага шызым прыткнулася бокам.
Ды пеністы вырай ізноў паляцеў
да сонца, што дражніцца, нібы сарока.

Душу заспакоіла мурканнем хваль.
Успомніла хату на родным балоце.
Прайшла далячынь,
і наперадзе даль.

І дзень адзінокіх — само бессмяроцце.

## ЗДАГОНЯ

А ў цябе колькі добрага,
гэтулькі ж вад,
мужны княжа, ляўша, непакора.
Ты на Ворсклу ганяў
і хадзіў на Грунвальд....
А чаму не прывёў да нас мора?

З круглай вежы выглядваў заморскіх паслоў,
княжа Вітаўт,
хіба ж не ўсё роўна:
з морам сонейка грала б, каб жыта расло.
Над чалом рассвітала б карона.

Свеціць краю высокая доля з гары.
Чорным ворагам — змрочныя нары.
З мора мараў выходзяць музыкі-вятры
і, натхнёныя, лупяць у накры.

Вымятаюцца з замкаў умэнт крыжакі.
Прусакі прытаіліся ў норах.
І шугае ад князевай левай рукі
Кронан, Кронас ці Нёман, што мора.

З Вільні, з Ліды і з Турава,
з Медніц, і з Трок,
і з Наваградка, з Полацка, з Крэва
змрок харугваў збіраецца ў Гродзенскі полк.
З крыжакамі разлічвацца трэба.

Ў стольцы Горадні, княжа, магілу капаў
тым, хто княства даводзіў да мору.
На чало сабе ўсклаў сам славуты каўпак,
сімвал велічы...
Дзе ж наша мова?

Маладыя рокат да неба ляцеў
з вуснаў вояў і з жэрлаў арганаў.
Шліфавалася — спеўная — ў княскім
лісце,
шчэ пячаткай тваёй змацавана.

Абарвецца няскораны Вітаўта род.
Запалоняць няпраўда і гора
мора пушчаў зубрыных і мора балот...
Ды не маем бясконцага мора...

## ЗДАЛЕЧА

*Лёніку Тарасэвічу*

Вецер адхлання мяне
ў край прыморскі прынёс.
Мора не бачыць мяжы.
Бы зямлі нашай лёс.

Мора, бы рана, якую наносіць палаш.
Уроіцца ж раптам — Кастусь Каліноўскі
ды пляж!

Грэецца ў промнях.
А побач пацеха адна.
Колькі начэй ухапіў, каб паспаць давідна?

Лапці на ногі мазольныя —
сівер ці сквар —
пехам прастуе на шляху лясны камісар.

Гоніцца ў промнейка траўка,
спяваюць шпакі.
А па запыленых трактах —
шпікі ды шпікі.

Збеглася гадаў
на болю спажыць лёгкі хлеб.
Толькі «Мужыцкая праўда» —
сякера і цэп.

Чуе — кассё ціха дзінкнула ў пуні старой.
То падаюць камісару паўстанцы пароль.

Са́ма што вострыя косы
дасвеццем кляпаць.

Будзем касіць не пракосы —
царскую шаць.

Вёска Валілы,
дзе кожны мужык — касавік.
Стрэлы-грымоты.
Семнаццаты дзень.
Красавік.
Падаюць пушчы Сакольскае
дрэвы на дол,
моўчкі таймуючы націск,
глушачы боль.

Але грабельнікаў нойме
цар-ліхадзей.
Скопам на катаргу, ў турмы,
ў Сібір павядзе.
Нашы галовы адчайныя скосіць пятля.
Костачкі ў белым пясочку
пагрэем пасля.

* * *

Як ні красуйся, ніхто не пахваліць.
З тым жа нікім акунаюся ў хвалі.
Шчыра кахаюся з пенным прыбоем,
боль зацяжны раздрабняючы болем.

Болем да болю — не перастане.
Боль хвалявання да болю трывання.
Боль скамянелага сэрца найгоршы.
Хай мяне ўколе сярэбраны ёршык!

Выцягне стрэмку конік зялёны.
Ехаць на край невідочны, замглёны,
дзе аніякі боль не зачэпе,
конна на косю зялёным найлепей.

Рэзкі віраж ад самоты-маўчанкі:
— Болем ці голадам кормяцца чайкі?
— Дзюбаюць чайкі адчай, слёзаспад
хваляў марскіх, беспрытульных дзяўчат...

Зноў адкаціліся хвалі-сіроты,
паплужкаваўшы жвіровае поле,
у ледзяны бяскрай адзіноты,
да ледзянога полюсу болю.

Хвалі-вандроўніцы, плакаць не смейце!
Хай замест слёз рассыпаецца смех.
Хай за плячамі — крылы бяссмерця!
Ды ў чорнай дзюбе — смерць.

# І АБЛОКІ

Імгненне растрывожыць
бясконцы вал вякоў.
На роспай хмарцы вожык
палюе слімакоў.

Плывуць і не трымаюць
за пазухамі грому,
пярэстыя — здымаюць
з плячэй стамлёных стому.

А мора духам вабіць,
штоміг мяняе воблік,
з танюткага ядвабу
тугі
тчэ срэбны воблак.

Ля мора на калочку
навязанае сэрца
на хмарчыным грудочку
цялушачкай пасецца...

Наперадзе й за мною
сцяжына тоне ў неба.
З сумотаю зямною
вяртацца ў вечнасць нельга.

Прызначыла сустрэчу
будзённай працы мера —
вярнуся ў шэры вечар.
Успомню белы бераг.

## З ПАДСКОКАМ

Крок у крок
і вочы ў вочы.
Трэба ж мора пераскочыць!

Пераскочу мора-долю,
не ўцяку, аднак, ад болю.

Не прычаліць чайка-чоўнік,
галава і хвосцік чорны.

Сіні ветрык скіне плашчык,
прывід светлы не прылашчыць.

Мора крача, бы качорка,—
залатое, шэра пёрка.

Словы-хвалі сінім роем —
наша мова, нібы мроя...

Срэбным хвосцікам вільнула,
срэбным грэбенем кальнула,
рыбкай-радасцю малою
уцякла...
Не мора злое.

Не скупіся, мора сіне,
падмацунку прынясі мне
дужым светам не праймацца,
з роднай мовай патрымацца.

# РОЗНЫЯ ГАЎІ

*Трыпціх*

Гаўя на санскрыце: лясны верабей

## 1. ЛЕГЕНДА ПРА ЛАТВІЙСКУЮ ГАЎЮ

Птушка Гаўя звіла на вяршыні гняздо.
Нізку пацерак зыркіх схавала ў гняздзе.
А з Нямеччыны чорны груган-ліхадзей
нізку ўкраў, крадучыся пад жухлай гвяздой.

Але ж глянуць карцела, які мае скарб.
А як пацеркі ўбачыў, аслеп і аслаб:
бурштыновыя кроплі ганяючы ледзь,
сэрца Латвіі торгала — ворагам смерць.

І груган на той свет, не ў Нямеччыну ўцёк.
Гаўя ўпала з вяршыні на глістае дно.
Абагнула ракою гары шорсткі бок.
На чужынцаў схавала двaістае дно.

Прасачыліся слёзы паўз горы-бурты.
А набіліцы кроснаў, прыбояў гурты,
слёз вуток прыбівалі да слёз — і застыў
у таемных глыбінях мядовы бурштын.

## 2. ПРЫТОК НЁМАНА

Гаўя пушчы спрадвечнай ажно па калена!
Захлынае вясновай паводкай душу.
Вадаспадам за шчырай бяседай сямейнай
пакаленні ўстаюць пад праменне дажджу.

Сумны голас жалейкі свідруе курганне
праз мураўку, дзірванне, праз тоўшчу вякоў.

Ачышчае істоту дзікунскае гранне.
Каля вогнішча бачу сваіх сваякоў.

Ды няўжо ў плыннай Гаўі тапіліся душы?
Між сястрынскімі мовамі ставілі мост?
Хто дубіўся, як дуб, каранёў не парушыў,
абуджае ў нашчадках нянавісць і моц.

Безыменны мой продак трывалы, маўклівы.
Ці няведанне шчасцем было сапраўды?
Можа, люд занядбаны быў тым і шчаслівы,
што пра атам не чуў, не прадбачыў бяды?

Ад прыроды нясцерпнага час вымагае.
Напаўняюцца рэкі самотай магіл.
Убірае ў душу сваю родная Гаўя
несвядома, як маці, з Чарнобыля пыл.

### 3. ПАРОЗНА

Аніякай лучнасці паміж намі.
Адгавеемся шчырасцю на сутонках.
Гаркаты пасмакуем,
хрустак з тваёй торбачкі —
падзелімся патаемным.

П'ю беспрадонне вачэй,
лашчуся каля радзімкі —
не гарачэю, бы крушніца.

Вопыт і кшталт акавіты смакуеш,
аднак не п'янееш.

Колькі ў душы заспаромлена
дабрыні, міласэрдзя, даверу, цяпла!
Што прыдбала, тым і дзялюся.

Што згубіла, аб тым і маўчу.
Ніякай даганы.
Процьму знайду і растрачу —
няма перад кім пахваліцца.
Вымерлі ўсе аднагодкі.
Ад начальнікаў і ад начальніц,
ад мяшчанства не маю заслоны.

Шчырая праўда — без мяне ты ніхто.
І лухта несусветная.

І ніякага шчасцейка мне без цябе —
адгасцявала, адшчасціла, адсвяткавала.
Ды ад шчасця ні плёну, ні клёку.

Праз гадзіну,
на досвітку,
ранкам суграным
пакідаеш мяне, я заплачу —
раўгеша.
Засну і прысню, што памерла.

Жыццё без цябе як нябытнасць.
Як прачнуся, слязіну змахну
ад шкадобы да маці.
Горам дачкі ўдвая гарапашная маці.

Сэрцам шляхотным спагадаць буду дужым,
у падушку самотна,
не на плячы буду плакаць.

Сэрца шляхотнае лепей,
чым сто дваццаць сем песень.
Ды яго не спяеш перад светам.
Уласным болем захоплены кожны.

Хацелася знікнуць між глею
ці ў хвалях прадоннае рэчкі.
Жанчын успаміны не грэюць.
Выстуджваюць цела дарэшткі.

Словамі, словамі, справамі
запоўню пустэчу, адсутнасць тваю,
о Нёман адхлання майго,
павярнуся да Нёмана смерці.

Па дарозе падумаю — дзе ты цяпер:
з якой — ведаць не ведаю,
бачыць не бачу,
уявіць не ўяўляю —
з тваёй маладосці замглёнай.

І не шкада мне ўжо яснага дня
і лагоднага сонца
і нават зажуранай Гаўі.
І нават сваёй прыгажосці.

Памкнуся і знікну ў мінуласць,
дзе рэчкай празрыстай сама я
са скрухай слязіну змахнула.
Мне шчасця Радзіма не мае.

Парозна.
Уроскідзь.
Аніякага зліву дзвюх рэк суіменных,
акрамя што сплываюць абедзве
крынічнай гаючасцю ў мора.

Пясчанае дно нашай Гаўі
і вочы людзей, што растуць ля яе,
празрыстыя.
Глізкае дно Гаўі латгальскай бурштынавай
двоміцца ад ледавеню.

Берагі нашай Гаўі
лагодныя, плыткія, дольныя.
Хадзі па сцяжынах, заплюшчыўшы вочы,
куляйся і абнімайся са жвірам,
нібыта з каханкам.
Каўзлівыя сцежкі гарыстых суклонаў
латвійскае сонечнакосай красуні
не кожны асмеліцца мерань.

Тутэйшы мужык,
нібы з яйка сягоннечы вылуплены,
спяшаецца, нібы мядзведзь за вераб'ём,
не асмеліцца з жонкай сварыцца.
Ды вецер хіба закілзаеш
паміж частаколін у плоце!

А тамака жонкі прысушкай крынічнай
з пячоры Гутмана
законных сваіх як напояць
з далоняў сваіх, то прысушаць да скону.
І самі нап'юцца з далоняў таксама сваіх,
не з мужчынскіх —
і вольніцу ад патаемнага чару трымаюць.
І Ружа Турайды [1]
ўзмацняе сямейную вернасць з магілы.

Ці гэтак папраўдзе,
ці на адвод вачэй —
крыём застаецца.

Любоў мая гоіць цябе,
нібы Гаўю крыніцы.
Вазьмі маё сэрца і незалежным застанься.
І Гаўя ўтапіцца спяшаецца ў Нёман,

---

[1] Персанаж латвійскага фальклору.

аднак не мялее з любові.
Схавацца б за дні, за імёны.
Няхай белы свет не зважае.
Знікаю ў натоўпе — чужая.
І ты прада мною — знікнёны.

## У БЕЛЫМ ПЫЛЕ

Хмельны ад ветру ўспаміны
возіць па горным хрыбце.
Стромкая елка з цясніны
пыл белы мяце.

Ведзьмы латвійскія ў ступах
ператаўклі белы пыл.
Белым уздыбіўся слупам
пад малады небасхіл.

Шлях выпрабоўвае вецер,
каб адрадзіцца наноў.
Вочы найлепшыя ў свеце
у маладых дзікуноў.

Стромая скача сцяжына
па макаўках дзён.
Шлях у адчайных — вяршыня,
выйсце — адхон.

Вышле з радзімы самота
лістоў белы клін.
Трэба вяртацца ў балота
да маладых журавін.

Кіну сумненні, дакукі
на хрусткія плечы хрушчоў.
Кінуся ў шчырыя рукі
вятроў і дажджоў.

***

Сэрца грукоча, як позны абоз,
баліць апошнім болем чакання.
Лісты з мінулага не да чытання.
Чаму не даходзяць лісты да нябёс?

Душа не чакае нікога нідзе —
птушынай сцяжыны ад маладзіка,
сярэбраны тварык яго двайніка
у Нёманавай патанае вадзе.

* * *

Хто ж гэта выплакаў
гэтулькі праведных слёз?
Хто ж майму сэрцу
слязіну адхлання прынёс?

Мора адхланне прынесла —
прылегла на плёс,
лапай камечучы косы мае,
што авёс.

Дубіцца скура
з цярпення,
з вятроў і дажджу.
Дома ж — не душы, каменне,
дамоў не хачу.

Тутака з морам сябрую —
свойскі мядзведзь.
Там трэба скуру двайную,
з латамі меднымі мець.

## РАЗВІТАННЕ З МОРАМ

З маладою чаіцай
праспявалі лета.
Вось яно канчаецца.
Узляцім адгэтуль.

Сілы многа ветранай,
і залішне людна.
Што гучала весела,
адгукнецца смутна.

Не зраднёных доляю
не зраднілі зоркі.
Памяць будзе доўгаю,
але прысмак горкі.

Ад прамення каліва
адагрэўся камень.
Гук падзення каменя
у прадонне кане.

На касцельнай вежы
звон адзвоніць нам.
Вечар перарэжа
мора напалам.

Бы журбы вядзерца,
мы насілі мора,
тулячы да сэрца
кожны сваё гора.

## ДАНУТКА-ВАР'ЯТКА

Над вірам журботы
пакладзена кладка
з тваёй адзіноты,
Данутка-вар'ятка.

Ці ведаеш, хто ты?
Ды ты — не загадка.
Багачка духоўная ты
без нашчадка.

Цябе не праніжа
ні плётка, ні звадка,
ні чутка-аглядка,
ні братка, ні сватка.

Ні з маслам аладка.
Ні з пырніку градка.
Калядка?
Свой сум адламай ад аплатка.

Не згледзіш —
адчыніцца вечная хатка.
Спужалася?
Не са слабога дзесятка.

Складуць два анёлкі
дзве ручанькі ў столкі.
Шкадуюць?
А ты ж і не з іхняй суполкі.

У ціхім балоце
галодныя чэрці
пасеюць страхоцце
імя тваё сцерці.

А рэбры расцягнуць
свавольныя дзеці.
А сонейка
на залаценькай карэце.

А той, хто да ўцёкаў
на досвітку шпаркі,
гаркоты глыне
з перапоўненай чаркі.

І зеллечкам здыме
з душы нават згадку —
забудзе Данутку,
Данутку-вар'ятку.

# І ДЗВЕ ЛІТВЫ

Лёс твой злітаваўся —
ты вярнуўся ў жывую Літву,
дзе дзяўчатам каханыя пішуць лацінкай лісты.
Я зрэдзьчасу гаючай слязінай на вейкі зляту
і назад у блакітнае зрэнка ўтану.
Але ты

застанешся ў засеянай, не ў летапіснай Літве.
Пакідаць занядбаных у мёртвай краіне латвей.
Ні аднюткай Скарынавай кнігі няма тут нідзе.
А суполка Алесяў над прорвай душу адвядзе.

Тут іржавага сонца даўно
не заводзіцца млын.
Схаладалыя промні даўно
ледзяшамі звіняць.
Непрытульна, ды весела ўсім пад гвяздою
Палын.
Пад гвяздою марудлівай смерці лягла цішыня.

Але ты, яснавокі, ў гарачай купайся Літве.
У разбураны храм беларускіх склікай святароў.
Не ў застылай, але ў адагрэтай князь Вітаўт
жыве паўнакроўна...
І стыне мая не блакітная кроў.

На гарышчы мінулага кнігу чытае Літва,
як два лёсы жартуючы весела час злітаваў.
Сярод гулкіх шляхоў скрыжавалася
доля-жарства,
каб на вуснах двухмоўных кахання жар
не застываў.

Буду, вечназімовая, шчыра маліцца ўначы,
каб з мінулага ў будучыню загудзелі масты,
каб Літва — зноў лавіна, агмень і звыцяжства.
А ты
накідай на святое літанне змагарак-жанчын.

Пад Пагоняй адной праз бяду паасобку лятуць.
Паасобку атручваюць Нёман ці Лету Літвы.
Дзве Літвы паасобку за долю змаганне вядуць.
Між братоў у мінулым сучаснікі ставяць платы.

Што Літвы не маглі падзяліць, хай не цешыцца
збрад.
З небыцця нам надзею дае Каліноўскі Кастусь,
што грудзьмі сваймі выкарміць сына ізноў
Беларусь
і яго родным сынам прызнае літоўскі народ.

## СВІЦЯЗЬ

Стаілася, спаткала шчасце-долю.
Дыхнула Свіцязь з лубянога долу.
Падставіла спрадвечнае каленца.
Кляновы клёпкі. Залатое сэрца.

Прыткнуся плечуком да галаменю.
Аддам душу крынічнаму праменю,
настоенаму на лясных карэннях
ў азёрных беспрадонных сутарэннях.

З глыбінь чутно, як верная князёўна
насустрач войску бегла на дарогу,
убачыўшы варожую залогу,
журылася,—слязамі Свіцязь поўна.

І ловіць вуха качыны вырай,
які на золку неба пространь выбраў,
а сом зірнуць на лёт з прадоння выйшаў —
так абняліся глыбіня і выша.

Дыхнула Свіцязь, Беларусь-дзяўчына,
слязою-словам учыніла споведзь,
злучыла вышыню і далячыні
ў раднюткі свет адхлання і любові.

## У ВІШНЕВЕ

Спее сонца.
Шчырэе світанне.
Толькі ў Вішневе творыцца цуд:
тут святар беларускі літанне
прамаўляе адзін за свой люд.

Ужо вырак на нас падпісаны.
Ужо знікнуць нам, бедным, пара.
Але нітачкай з небам звязаны
грэшны люд праз свайго святара.

Ні багацця, ні славы, ні мовы.
Да сапраўднай галечы дайшлі.
І не цямяць без веры галовы,
што адсюль адраджэнне душы.

* * *

Беднай жабрачкай зімовай
хаджу басанож.
Боль не замовіць замовай,
ды мучуся ўсё ж.

Падтасавана старанна —
сам нібы звёў сябе люд.
Край — незагойная рана,
не верыць у цуд.

У зеўру двухмоўнага цмока
унукаў кідаем, як мух.
Стронцый, нябачны на вока,
нішчыць наш дух.

Не ўратавалі дзяржавы.
Не здолелі годна сканаць.
З памяці звонам іржавым
белага клічам каня.

Покуль працэдзіцца шэры
вечар, самотны заход,
выпіць хацелася веры,
што ачуняе народ.

# У ПАРЫ З НЁМАНАМ

Ты думаеш, Нёман, што сонца
твой гон супыняе?
Не, стронцый.

Тут жудасны зброд цемнаты.
Заткнулі крыніцам раты.

Жывога цябе пахавалі,
атрутай атруцілі хвалі.
А ты падзяліўся атрутай
з зямелькай і з плоткай і з рутай.

Пайшлі, ігнаруючы мутнасць,
бядзе напярэймы, на люднасць!

Ты — супраць вярчэння зямнога.
Я супраць — няпраўды замнога.

З табой неспатольныя ў скрусе,
сасмяглыя па Беларусі.

Абнімеш Радзімы лагчыны,
рванеш з неманіны на волю.
А ў сэрцы самотнай жанчыны
залішне акоўнага болю.

## СТАМЛЯЮСЯ

Стамляюся без натхнення, шукаючы
працы.

Захапляюся працай —
сілы няма адарвацца.
Сілы няма паўстрымацца,
каб ад працы ізноў не стамляцца.
Ніякава: супынюся —
адпачну, як стамлюся...

Калі б ты быў — так падумаю —
не шэрым каменем у бярэзніку чорным,
я з табой і стамілася б і адпачыла б
ад стомы.

Ты ж — граніту нязрушная глыба —
назаўжды замоўкнуў, як рыба.
Я з апастылай крывёю —
марнасць, няма супакою.

Каб не вянчаўся ты з вечнай зямлёю,
не з падушкай задушнай — з табою
абнімалася б і не стамлялася б.

Ночы мяне найгорай стамляюць —
ізноў да гора ізноў прытуляюць.

## ЛЕПЕЙ

Сон саладзейшы напапалам, як і яблык.
Лепш з грыбнікам хадзіць па грыбы,
чым з асенняю песняй.
Песня дуэтам гучыць прыгажэй, чымся сола.
Снедаць, палуднаваць і галадуху спраўляць
лепей на пару.

Ноччу кахацца — не выдумляць рыфмаванкі.
Лепей браць кветкі з рук закаханых,
чым палiваць на магіле.
Гараваць, у сняжніцы знікаць,
напрадвесні з-пад снегу ўзыходзіць
з мужчынам найлепей.

На беларускай мове
добра ўдваіх размаўляць.
Бульбу садзіць і капаць,
сена ў копы стаўляць...
Дробных дзяцей кожны вечар,
бы ягнятак, дамоў заганяць...
У няславе канаць.

Толькі на ворага меч узнімаць
зручна, як сэрцу не рупіць ніхто.

# ПАЎНОЧНАЕ

Так цемравей абнімае.
Фатаграфія — фільм неагучаны —
заканчэння, пачатку не мае.
І ніводнай прыгодніцкай кніжкі
ты мне не напішаш?
Ты з-пад Глінянак?
А нібыта ўчора з Парыжа.

За акном цемравей.
Непраезнасць маркоты між намі.
І гудзе мой пакой
сноў бяззубых пустымі збанамі.
Купяць дзеці даўжэйшы, цяснейшы,
прыбяруць у паркаль або шоўк.
Тумановы стажок не схавае —
перавезлі ў адрынку стажок.

Холад.
Нацягваю з цемрай жыцця недалужныя страты.
Апаўночы выкручвае неба бяссонніцы транты.
Як зімаваць без надзеі, без ласкі, без маскі,
без грошай —
крыху разумнай, крыху лянівай, крыху
ў мінулым прыгожай?
Сорам самоты змясціць у прыстойнасці грані?
Кожны вачмі цябе зраніць, мус рабіць выгляд —
не зраніў...
Выплакаць бабскую долю ў цемры шчарбатае
церла?

Плакала, плакала, плакала,
з плачу памерці не ўмела.
Выплакаць горыч на грудзі твае да адхлання
не ўдасца.
Скончыцца холад, калі затрасе мяне трасца.

## ПАЎДНЁВАЕ

Дзень быў чароўны, блакітны, чырвоны,
масенжны і залаты.
Ты
прытуляў мяне сонейкам.
Несвядомыя шчасцем лісты
ападалі з нязмыслага клёніка.
А ты
казытаўся з нябёс,
усміхаўся праменнем,
плашч агністы прымерваў,
лісцікі трос.

Ад вясновай дзівацкасці,
ад дзявоцкасці, лёгкасці,
ад немагчымасці ўбачыцца, ад пекнаты
я спяшалася абы-куды.
Збоку сонейка — ты.

Поўных рэк правады, з гарбузамі платы,
у сусвеце — лісты, прадчуванне бяды,
пачуццё глухаты...
Паміж намі сапраўднае ўсё сапраўды!
Скрыжаванні шляхоў, што збягаюцца і
разбягаюцца
зніадкуль у нікуды.
У блакіце вачэй — ці нябёс? —
промняў, сонечных рук, невады.
Паглыбелі брады
стрэч гадо́ у радо́.
Свя́ты! Божа святы́!

* * *

Не загартай мяне!
Думкі ў расстанні азмрочы.
Белым уздыхам
сцяжыны спатканняў гартай.
Хоць праз цямрэчу знікнення
зірні ў мае вочы.
Не загартай мяне!
Нашу Радзіму вяртай.

## ГОРАД

Люты. Збыткуецца голад.
Кусаецца люта зіма.
Коціцца сонейка ў горад,
куды табе ходу няма.

Мучышся ў золкім бяссіллі.
Ззяе на краі зямлі
горад, куды запрасілі
і ключ ад кватэры далі...

Наваткі слёз не прымае.
Брамы замкнуў назаўжды.
Шчыльна зачынены мае
ўсе лабірынты, хады.

Выкінь у шчыліну моўчкі
ключ і са свечкай-слязой
кроч у мінуласць, упрочкі,
у непрытульнасць, у золь.

Клопаты, жартачкі, гулі.
Ты ў завірухі адна.
Горад, якім падманулі,
ззяе наскрозь давідна.

Рэжа святлом твае вочы
свята, вясёлы кірмаш.
Спынішся моўчкі на ўзбоччы.
крыўду абтрэсці з камаш.

Знікнеш — ніякага спадку —
бедная пані Бічэль...
у нешчаслівым выпадку,
ў змрочнай чужыне вачэй.

* * *

Накінулі сяброўкі
на плечы сабалёўкі.
На ўсіх ваяк-сяброў
павук вязніцы сплёў.

Ужо не разгарнуся —
слязой залье агонь.
На чыстым небакрузе
Алесеў белы конь.

Прамчыць вясновым гулам
паўз шэры змрок хацін.
Чым памяць аб мінулым,
лепш малады ліцвін.

## ПАМЯНЯЛА ЖЫЦЦЁ НА ПЕСНЮ

Маладых захапленняў прывіды мярэсцяцца на людных завулках, не адчароўваю іх у мужчынскія постаці, хай застаюцца прывідамі.
Дзівавáўся цяняк, а чаму не высылаю спадзевак яму,— сэрца аж захлынаецца ад мітусні, а тралейбус ізноў не падвёз, каго на той свет не адвозіў.

Пацалункі, аднак, не тлумачацца з роднае мовы, іх тыраж двое ў сакрэце трымаюць.
Наталяюся песняй. І стома ад песні даражэй мне, чым цаля на пару з інжынерам савецкім. Сачыла за тым, хто на небе, ля вокан цвіце пустацветам.

Знішчаю штодзённа маршчын шаранчу з безнадзейна вясновага твару. За апошні мядзяк адкуплю паркалёвую ў ветрыку мару.

Птах з-пад хмар! За шчырую песню тваю шэры адрэз жыцця аддаю. Памяняю асфальтавы шлях на сцяжыну захмарную, птах!

Праваліўся ў цясніну грудзей — беларускіх на прыпеку горак... Таймаванне, адчай, безнадзей, небыццё, надвячорак і морак.

## АНІЯКІХ

Хворыя ад кахання
не заступяцца за Радзіму.
Пералезуць праз частакол,
заблудзяць у чатырох сценах.

Хто шукае надзейных плячэй,
той не змаганец яшчэ.
Хто мае надзейныя плечы,
той без талок смялок.

Чым дзён у восені менш,
тым плёну лягчэйшы мех.
Прыцінь — спрыцень.
Холад — заход.
У безнадзейнасці белыя коні.
І чырвоны месяц у поўні.
І хмарэчы белыя скроні.

А з Вашае Светласці Шэрых Вачэй
аніякіх узнагарод...

## НЯМА

Святочны строй будзённым стаў занадта.
З кім адгавеюся? Не маю брата.
Бяссоннай ноччу душы свецяцца наскрозь.
Скубе цямрэчу маладзік, як лось.

Якімі зухамі заселены сусвет?
Ці дух-баранчык, ці людаед?
Наіўных ненажэрная акула —
не згледзела, як долю праглынула.

Няма любові — не пара памерці.
Шчэ ў забыцці дзявоцтва, бы ў бяссмерці.
Крыві язычніцкай ятвяжскай бурай
у сэрцы кроплі ўскіпаюць бурай.

Я сэрца прастадушнае сціскаю.
Жыццё задарма, за мядзяк пускаю.
Кроў за Радзіму... дзе? калі праліць?
Мой лёс нікому болей не баліць.

## НЕ ПАМІНАЙЦЕ

Бывае, зраблю нейкі падсвядомы міжвольны рух, а сама пра сябе падумаю — ягоны рух...

Пачынаю мовіць як бы не сваім, з хрыплаватай узбуджанасцю, голасам, а сама нібыта збоку спасцерагуся — ягоная звычка размаўляць.

Як быццам Эрык ува мне пасяліўся, а ягоная душа завалодала маёй воляй.

Пасля смерці запоўніў усе закуткі цямрэчы, усе сутонкі жалобных пакояў, скаваў маё цела адчаем, падаваўся на вуліцы ў іпастасях мужчын — абы толькі мужчына з вусамі — з-за дрэваў, з-за платоў, з пустэчы, з-пад сонца.

Сачыў у бяссонныя хворыя ночы, скрыпеў масніцамі, выходзіў з праёмаў акон, са столі, з-за шафы, з люстэрка. Стамлялася і засынала — чакаў мяне ў сне, прахоплівалася со сну — глядзеў з таго свету.

Пашукаю — думаю — паратунку ў абдымках мужчыны адпетага — легкадумна мяне прыгарнуў рукамі ягонымі ў цемры.

Адрас змяніла. Купіла канапу... Нібы палягчэла...

Але адчуванне крадзецца ізноў, што міжволі калькую ягоныя рухі, устхненне і спогляд...

Не памінайце няскораных мёртвых, якія пакуль што не памерлі.

# ЦУДАДЗЕЙНАСЦЬ

На злом галавы ўцякаць не прымусяць —
краскі пасею па ўсёй Беларусі.
Зеллечка ўзыдзе тут сярод ночы,
стронцый у сэрца зялёнае ўсмокча.

Высее зялёным раточкам атруту,
зніме распад смертаноснага бруду.
Дзетак-бязлетак яшчэ падгадуе
ды на асуджаных не засярдуе...

Мята, расходнік, чаборык ды лютнік
зніякавеюць у сонны атрутнік.
Сончык з вачэй несвядомай сіроткі
высмакча польсцый, расейсцый зіхоткі.

Янка-ды-Мар'я на сцежцы лясной
не вінавацяць віной-жаўцізной.
Чыстае зелле праз яд прарасце,
цудам малітвы смерць адвядзе.

# POST SCRIPTUM[1]

Скончыцца мірам без міру, але не вайною.
Будзе нікчэмнаму свету мяне не шкада.
Ключ у дзвярах выконвае сальта двайное.
Кат, мой кахацы, апошняга слова не даў.

Ані любові, ні смерці, годнай мяне!
Каб жа ў віне!
У смольнай цягучай мане...
будзе душыць мяне цемра задушнай пачы.
Гэта чаканне канчаецца гулкім нічым.

Без апраўдання, без плакання лёс павучыў
з мілым кахацца толькі ў маім сне.

Сэрца пакоціцца па лабірынтах пустэчы.
Вочы, дзве раны на твары, ніхто не залечыць.
Вокны і вуліцы — глуха.
Гадзюкі-сустрэчы.
Шорсткія плечы муроў...
і вечар старэчы.

Ахвяраванняў духоўных нязлічаны скарб.
Нават вясна не прымае, хто духам аслаб.
Дух мне займае...
празрыстае неба і дол.
Мой незакляты, светлы скрыдлаты анёл!

---

[1] Дапісаць.

## САНЕТ ДА НЁМАНА

На зялёнай рацэ крыгаход.
Шчырых крыгаў рухомая карта.
А ці ж доля хоць шэлега варта,
як у гэткім разладзе народ!

Паўтараю ў прадонне ваш лёт,
Багдановіч, Купала і Цётка,
з гарадзенскага прысаку лётка
паўтараю — з нябёс і пад лёд.

Нёман, Нёман, адзіны каханы,
абальеш прахалодаю раны
і схаваеш ад горкіх нягод...

Расцвітуць сэрца сцюжнага крыгі
да бязлюднай спрадвечнай адлігі —
гэтак знойдзецца згублены брод.

## ДАВАЙЦЕ

Давайце паспрабуем стаць народам
і скінем скуру гнусную гадзюкі
і акаваны панцыр чарапахі
з плячэй,
а з сэрцаў — стопудовы камень.

Мы не здзічэлі — ачунялі з чаду.
І не цыруйма ў шкарпэтках пяткі —
няхай адтуль вытрушваецца вонкі
здубелая заечая душа!

## ТЛУМАЧЭННІ НЕКАТОРЫХ СЛОЎ

*Адсякоша* — устарэлая форма ад «адсячы».
*Амарока* — галюцынацыя.
*Ахвярнік* — алтар.
*Буглёк* — каменьчык.
*Вадар* — праваднік.
*Вершнік* — коннік.
*Ведамка* — звестка.
*Дагана* — папрок.
*Двоміцца* — дваіцца.
*Двубой* — паядынак.
*Дзірхема* — манета з усходу.
*Жальнік* — могільнік.
*Жарлівы* — хцівы.
*Засковіць* — заманіць.
*Заспаромлены* — пазапашаны.
*Засплынь* — тонкая плеўка.
*Злодыр* — вораг.
*Злудзень* — прывід.
*Кікіцы* — кутасы ў паску,
ад старажытнага «кікі» — лебедзі.
*Кірлі* — чайкі.
*Клявец* — малаток.
*Кронан, Кронас* — балцкі назоў Нёмана.
*Крушніца* — печ з камення.
*Крыём* — патаемна.
*Кураклік* — час перад світанкам.
*Кухлік* — келіх.
*Ледавень* — ляднік.
*Логны* — футляр.

*Марылькі* — мясцовая назва кветак з сямейства касмеі.
*Мачарына* — мокрае месца.
*Месцежа* — помста.
*Мігак* — маяк.
*Мойніца* — амбона, трыбуна.
*Мярэсціцца* — здавацца.
*Накры* — літаўры.
*Нацкаўскі* — з вёскі Нацкавічы.
*Неманіна* — старык Нёмана.
*Пагудасты* — дрымучы.
*Падстрэхаўкі* — ластаўкі.
*Пасцельніца* — каханка.
*Пахлебнік* — дармаед.
*Полынь* — зарыва.
*Пошугам* — імгненна.
*Прасвада* — апраўданне.
*Прыходзень* — прышлы.
*Ратугі* — вярыгі.
*Раўгеша* — плакса.
*Самаісты* — самабытны.
*Слёзнік* — плакун.
*Стод* — ідал.
*Сугранны* — пахмурны.
*Туркаўка* — горліца.
*Удаконь* — ушчэнт.
*Уроіцца* — уявіцца.
*Уроскідзь* — паасобку.
*Хаморная* — імжыстая.
*Хацяша* — устарэлая форма ад «хоча».
*Хорс* — сонца.
*Хрустак* — агурок.
*Шыхт* — строй.

## ЗМЕСТ

### Дожджык сляпы

А на Палессі ~ *4*
Перад Нёманам ~ *6*
«Ад маўклівай мядзведзевай спячкі...» ~ *7*
«Прынёс ахапак прамення...» ~ *8*
Чародка ~ *9*
«З прыполу хмаркі Ярыла...» ~ *10*
«Чортава вока амаль...» ~ *11*
«З дужай стварыы мяне кволай...» ~ *12*
«Не відно пераправы...» ~ *13*
«Калі даспела ў жніўня збожжа...» ~ *14*
«Апынуся ў пашчы грому...» ~ *15*
«Постаць змянілася, тварык змарнеў...» ~ *16*
«Але не лёс нам вярнуцца...» ~ *17*
«За шырокай спіною...» ~ *19*
«Хаціна цёткі Анэты...» ~ *20*
Мімалётна ~ *21*
«Вочы твае зялёныя...» ~ *22*
«Калі б думкі смелыя былі...» ~ *23*
Журавіны ~ *24*
«Каб не разбіцца...» ~ *25*
Віхор ~ *26*
Душа ~ *27*
«І тут нікогачкі няма...» ~ *29*
Крумкач ~ *30*
Камень ~ *31*
Сініца ~ *32*

### Замуж пайсці за Дняпро

Да Нёмана ~ *34*
«Як у цябе не знайшлося...» ~ *35*
Замест запавету ~ *36*
«Высокая гара...» ~ *38*

На пляцы пятлі ~ 39
«Сэрца народа паклалі ў дамоўку...» ~ 41
Якушоўка ~ 42
Вера ~ 45
Супольна ~ 46
Дзяды ~ 47
«Глядзіш з партрэта на мяне здаля...» ~ 49
Вулка Паўстання ~ 50
Праменне дзён на вуліцы Ажэшка ~ 51
Пясняр ~ 52
Баторава горка ~ 53
Ліля Надольнік ~ 57
След ~ 58
Дняпро ~ 60
Белае возера ~ 62
Чорнае возера ~ 64
Самота ~ 65
Ракуцёўшчына 31 мая 1987 ~ 66
Неглюбскі строй ~ 67
Песня — варажба ~ 69
«Вось дзе злучаецца неба з зямлёй...» ~ 70

## Маладзік над шыхтам стагоддзяў

Птахамі продкі былі ~ 72
Запалі ад маладзіка ~ 73
Эпіграфы ~ 74
Спатканне ~ 75
Балада Полацкага гарадзішча ~ 76
Маленне ~ 78
«Гарадзішча...» ~ 79
Балада пра князя Усяслава Чарадзея ~ 80
«Удасканалены...» ~ 83
Ефрасіння Полацкая ~ 84
«Будучыня Беларусі...» ~ 91
Празарокі ~ 92
«Узнавіць...» ~ 94
Словам Скарыны ~ 95
Вершатворца Сімяон Полацкі ~ 97
«У праўдзе...» ~ 99
Чырвоны мост ~ 100
У Полацкай Сафійцы 1986 ~ 101
Продкі ~ 103
Паганскае ~ 105

Літанне ~ *106*
Гісторык ~ *107*
Нязгода ~ *108*

## Дубулты. Лета.
## Мора і сонца самоты

Мора і сонца самоты ~ *110*
«Холаду змрочныя ноты...» ~ *112*
Цягнецца дзень ~ *113*
Здагоня ~ *114*
Здалеча ~ *116*
«Як ні красуйся, ніхто не пахваліць...» ~ *118*
І аблокі ~ *119*
З падскокам ~ *120*
Розныя Гаўі ~ *121*
У белым пыле ~ *127*
«Сэрца грукоча, як позны абоз...» ~ *128*
«Хто ж гэта выплакаў?..» ~ *129*
Развітанне з морам ~ *130*
Данутка-вар'ятка ~ *131*
І дзве Літвы ~ *133*
Свіцязь ~ *135*
У Вішневе ~ *136*
«Беднай жабрачкай зімовай...» ~ *137*
У пары з Нёманам ~ *138*
Стамляюся ~ *139*
Лепей ~ *140*
Паўночнае ~ *141*
Паўднёвае ~ *142*
«Не загартай мяне!..» ~ *143*
Горад ~ *144*
«Накінулі сяброўкі...» ~ *145*
Памяняла жыццё на песню ~ *146*
Аніякіх ~ *147*
Няма ~ *148*
Не памінайце ~ *149*
Цудадзейнасць ~ *150*
Post scriptum ~ *151*
Санет да Нёмана ~ *152*
Давайце ~ *153*
Тлумачэнні некаторых слоў ~ *154*

**Бічэль-Загнетава Д.**

Б67 А на Палессі: Вершы і балады.— Мн.: Маст. літ., 1990.— 158 с., [1] л. партр.

ISBN 5-340-00456-2.

Бичель-Загнетова Д. А на Полесье: Стихи и баллады.

**Жанравыя асаблівасці новай кнігі паэткі вызначаны лірычнымі вершамі і гістарычнымі баладамі.**

**Данута Бічэль-Загнетава з усёй уласцівай ёй эмацыянальнасцю і паэтычным імпэтам не проста даследуе, а літаральна жыве беларускай гісторыяй. Паэтку захапляюць выдатныя асобы мінуўшчыны — Ефрасіння Полацкая, Усяслаў Чарадзей, Кастусь Каліноўскі...**

**У вершах шырока выкарыстана лексіка народных гаворак.**

**Б $\frac{4702120202-031}{М\ 302(05)-90}$ 43—90**

**ББК 84Бел7**

*Литературно-художественное издание*

**БИЧЕЛЬ-ЗАГНЕТОВА**
**Данута Ивановна**

**А НА ПОЛЕСЬЕ**

Стихи и баллады

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке



*Літаратурна-мастацкае выданне*

**БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА**
**Данута Іванаўна**

**А НА ПАЛЕССІ**

Вершы і балады

*Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк*
*Мастак І. М. Андрыянаў*
*Мастацкі рэдактар А. М. Малышава*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктар Л. А. Дзядзюля*

ІБ № 3250
Здадзена ў набор 22.06.89. Падп. да друку 28.11.89. АТ 06919. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,85+0,07 укл. Ум. фарб.-адб. 6,18. Ул.-выд. арк. 4,86. Тыраж 6000 экз. Зак. 2703.
Цана 65 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.